№ 1—3 Май 1928 г.



# БЮЛЕТЭНЬ

## ЦЭНТРАЛЬНАГА КАМІТЭТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ЧЫРВОНАГА КРЫЖУ

## SOCIÉTÉ DE LA CROIX ROUGE DE LA RUTHENIE-BLANCHE BULLETIN DE LA COMITÉ CENTRAL

Няхай жыве 2-гі Ўсебеларускі Зьезд Т-ва Чырв. Крыжу



МЕНСК MINSK

# ЗЬМЕСТ

БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА ЧЫРВОНАГА КРЫЖУ

Société de la Croix Rouge de la Ruthénie Blanche
Bulletin № 1—3, 1928.

# БЮЛЕТЭНЬ

№ 1—3





МАЙ—1928 г.

ГОД ВЫДАНЬНЯ ТРЭЦІ



ВЫДАНЬНЕ ЦК БЕЛАРУСКАГА Т-ва ЧЫРВОНАГА КРЫЖУ
МЕНСК 1928

## *ШЧЫРАЕ ПРЫВІТАНЬНЕ ДЭЛЕГАТАМ 2-га ЎСЕБЕЛАРУСКАГА ЗЬЕЗДУ ЧЫРВОНАГА КРЫЖУ!*

*Рэдакцыя „Бюлетэню“ засылае шчырае прывітаньне Таварышам-Дэлегатам 2-га Ўсебеларускага Зьезду Таварыства Чырвонага Крыжу і жадае самае плённае працы ў справе падрыхтоўкі санітарнае абароны соцыялістычнае краіны.*

*Рэдакцыя глыбока пераконана, што з моманту 2-га Зьезду Беларускі Чырвоны Крыж падвоіць памер і энэргію сваёй чыннасьці, ахопіць сваёй арганізацыяй новыя тысячы работнікаў і сялян, і што ў сувязі з гэтым наш „Бюлетэнь“, як выраз чырвонакрыжнай працы ў Савецкай Беларусі, знойдзе сабе чытача ў кожнай работніцкай сям'і і ў кожнай сялянскай хаце.*

*Рэдакцыя.*




Галоўлітбел № 1212 2000 экз. Менск, 2 друк. БДВ № 2264

# Вынікі і чарговыя задачы

Да II-га Усебеларускага Зьезду
Чырвонага Крыжу

На II-м Рэспубліканскім Зьезьдзе Беларускаму Чырвонаму Крыжу прыдзецца зрабіць чарговы гэнэральны прагляд сваіх сіл. Нарадзіўшыся ў 1921 г. у эпоху голаду і яшчэ не зажыўшых ран пасьля польскае акупацыі, Беларускі Чырвоны Крыж з тае пары прайшоў вялікі жыцьцёвы шлях. На гэтым шляху шмат было ўсялякіх ухабаў і выкрунтасаў, але цяпер можна з поўнаю адказнасьцю заявіць, што ў грунтоўным Чырвоны Крыж справіўся з задачамі, якія перад ім былі пастаўлены.

З маленькіх, амаль нікому невядомых арганізацый, ледзь налічваўшых пару тысяч сяброў—Чырвоны Крыж вырас і колькасна і якасна, шырока загарнуўшы ў сабе масу працоўных. І калі аб Чырвоным Крыжу мала ведалі нават у асяродку Савецкай Беларусі, у Менску, блытаючы „Чырвоны Крыж“ з гандлем у менскім унівэрсальным магазыне, бо толькі гэтым магазынам ён і быў вядомы, дык цяпер мы ўжо маем дзесяткі, сотні чырвона-крыжных ячэек, якія знаходзяцца непасрэдна ў самай гушчы сялянства і раскіданы па глухіх беларускіх вёсках.

Ня толькі ўдалося папулярызаваць Чырвоны Крыж у сябе, як кажуць, „у сваёй хаце“, але нават там, у Заходняй Беларусі, дзе працоўныя стогнуць пад ярмом польскага фашызму, ужо знаюць, што ёсьць свой родны Беларускі Чырвоны Крыж, які, ня гледзячы на сваю беднасьць,—усё-ж прымае ўсе належныя меры, каб аказаць братэрскую дапамогу дзецям рабочых і сялян па той бок савецкай мяжы.

Ужо той факт, што адна маці з далёкага Пінскага Палесься, з польскага боку пісала нам ліст з просьбай дапамагчы яе сыну, які вучыцца там у беларускай школе, ужо адно гэта гаворыць за тое, што Чырвоны Крыж стаўся тэй арганізацыяй, якая parадніласяя з шырокімі масамі працоўных ня толькі ў краіне саветаў, але нават і там, дзе сьвішча польская нагайка і дзе пануе азьвярэлая салдатчына.

Бязумоўна, справе Чырвонага Крыжу дапамагло яшчэ і тое, што пасьля першай канфэрэнцыі, адбыўшайся ў 1926 г.

быў узяты, круты напрамак працы, а таксама і правільная лінія. Гэты напрамак можна схарактэрызаваць двома словамі: адмова ад гандлёвай чыннасьці і курс на шырокую грамадзкую самадзейнасьць.

Шырокая кампанія па перавыбару акруговых і раённых камітэтаў, ліквідацыя інстытуту ўпаўнаважаных, ці іначай кажучы, „назначэнства“, пасылка ў вёску ўсякага роду прафілактычных атрадаў,—вочных, вэнэролёгічных, зубных,—шырокія аздаравіцельныя мерапрыемствы—усё гэта адыграла рашучую ролю ў вёсцы ў справе пералому настрояў на карысьць Чырвонага Крыжу. Перад савецкай грамадзкасьцю пачаў яскрава вырысоўвацца зусім новы, да таго нікому невядомы твар арганізацыі. Мне ўспамінаюцца вельмі цікавыя словы тав. Чарвякова, калі ён у раёне, у ліку арганізацый, што прымалі ўдзел у аднэй з звычайных нашых палітычных дэманстрацый, угледзіў і арганізацыі Чырвонага Крыжу. Для яго было зусім новым і нібы дзіўным бачыць у вясковых абставінах тую арганізацыю, якую мімаволі падсьвядома заўсёды ўяўлялі побач з гандлёвым прылаўкам, і якую ні ў якім выпадку ня лічылі за арганізацыю з мэтамі і грамадзкасьцю рабоча-сялянскага характару.

Яшчэ адна маленькая рыса дзейнасьці Чырвонага Крыжу, якая заваявала да яго спачуваньне насельніцтва: гэта праца па стварэньні нізавых ячэек па санітарнай абароне—Гурткоў Першай Дапамогі.

Напружанае становішча, якое стварылася ў краю пасьля разрыву дыплёматычных зносін з Англіяй, прымусіла працоўных актывізаваць сваю энэргію, сілу на абарону супроць магчымага нападу.

Лёзунг, выкінуты Чырвоным Крыжам аб неабходнасьці перабудовы ўсёй працы адпаведна задачам прывядзеньня краю ў абарона-здольнае становішча,—быў надзвычайна жыва падхоплены масамі.

Мы бачым бязупынны, проста стыхійны ўзрост Гурткоў Першай Дапамогі, напор з боку рабочых і сялян, жадаючых атрымаць элемэнтарныя веды па санітарыі. Чырвоны Крыж правільна ўлічыў злажыўшаеся становішча і арганізаваў трохгадовыя курсы мэдычных сясьцёр, дзе найбольш актыўныя члены Гурткоў Першай Дапамогі маглі-б атрымаць кваліфікаваную сярэднюю мэдычную асьвету. Чырвоны Крыж прымаў усе меры для шырокага скарыстаньня ўсіх магчымасьцяў для свайго шырокага прасоўваньня ў масы. Для гэтай мэты было прадпрынята зблізкэньне з фізкультурнікамі, блізкі ўдзел у іх рабоце, фінансавая дапамога ў іх пачынаньнях. Зусім правільна ўлічваючы профіляктычнае значэньне

фізычнага выхаваньня працоўных—Чырвоны Крыж аказваў садзейнічаньне органам аховы здароўя ў арганізацыі мэдычнага кантролю над фізычнымі практыкаваньнямі.

Органы аховы здароўя павінны быць асабліва ўдзячны Чырвонаму Крыжу за тое, што пры яго шчырай дапамозе была праведзена надзвычайна вялікая аздаравіцельная і санітарна-дасьледчая праца. Цэлы шэраг навукова-дасьледчых прац па санітарнаму вывучэньню БССР угледзелі сьвет толькі дзякуючы Чырвонаму Крыжу і мэдычная літаратура ўзбагацілася надзвычайна каштоўнымі працамі, маючымі гістарычна-біолёгічнае значэньне.

У бліжэйшыя дні Беларусь збагаціцца яшчэ аднэй мэдычнай установай, якой будзе суджана адыграць вялізарную ролю ў справе аховы здароўя—гэта ўтварэньне Одонтолёгічнай Полікінікі, ячэйкі будучага Одонтолёгічнага Інстытуту.

Зроблена многа, але яшчэ больш застаецца дарабіць у бліжэйшай будучыне.

Мы ўступаем у новы пэрыяд сваёй творчай дзейнасьці, які можна схарактарызаваць як пэрыяд якаснага ўзмацненьня заваяваных пазыцый, паглыбленьня пачатай работы. На бліжэйшыя пяць гадоў праграма Чырвонага Крыжу павінна будзе разьвівацца па трох грунтоўных галінах:

а) Узмацненьне нізавой ячэйкі;

б) Разьвіцьцё і ўдасканаленьне Гурткоў Першай Дапамогі, разам з санітарнымі дружынамі, і

в) Шырокая аздаравіцельная работа па разьвіцьці санітарнай культуры на вёсцы.

Чырвонаму Крыжу даецца ясная мэтавая ўстаноўка і нізавыя ячэйкі атрымаюць той сьцержань, навакол якога лягчэй будзе будаваць сваю дзейнасьць.

Гурткі Першай Дапамогі—бязумоўна найлепшая форма чырвона-крыжнай масавай працы, бо праз іх лягчэй і хутчэй можна прыцягнуць масы, лепш за ўсё праз іх можна ўлажыць у наш быт элемэнты санітарнай граматнасьці, санітарных звычаяў, так патрэбных цёмнай беларускай вёсцы. Гурткі Першай Дапамогі могуць адыграць на вёсцы ролю ячэек па стварэньню новага быту, бо праблема культурнай рэвалюцыі шчыльна ўпіраецца ў зьнішчэньні санітарнай няпісьменнасьці і санітарнага будаваньня. Узяць хаця-б удзел ячэек Чырвонага Крыжу ў пытаньні планіроўкі вёскі, пабудове лазьняў і студняў, забрукаваньні вуліц, пасадкі дрэваў, у барацьбе з заразнымі хваробамі,—усё гэта стаіць прад членамі нашай арганізацыі вялізарнымі задачамі, а ў вачох сялянства падымае практычнае значэньне Чырвонага Крыжу.

А барацьба з алкагалізмам? Ці гэта не вялікая праблема для вёскі? Тут Чырвоны Крыж таксама павінен прылажыць сваю руку і быць застрэльшчыкам і барацьбітом на вёсцы з гэтым пагубным парокам спадчыны царызму.

Трэба спадзявацца, што задачы, пастаўленыя перад Чырвоным Крыжам будуць выкананы і савецкая грамадзкасьць дружна пойдзе ім насустрэч.

Нашым лёзунгам павінна быць—утварэньне з Чырвонага Крыжу базы для ячэек новага быту—ударнай пазыцыі для прасоўваньня культуры ў глухія куткі нашае маладое Рэспублікі.

*М. Барсукоў*

# Чырвоны Крыж—у сялянскія масы!

Няма нічога больш прыемнага, як бачыць, калі здаровая і грамадзкі карысная ідэя пачынае заваёўваць шырокія колы насельніцтва і замацоўвацца ў жыцьці самых глухіх куткоў нашае працоўнае Савецкае Беларусі.

Ласьне гэткае пачуцьцё родзяць апошнія паведамленьні і лісты, якія прыходзяць у наш Цэнтральны Камітэт з беларускае вёскі, ад запраўдных сялянскіх гушчаў.

Вось яна,—каштоўнейшая ініцыятыва месц! Вось яна—масавая зацікаўленасьць, жывая, запраўды дзейная энэргія, якая б'е з самых, здавалася, неспадзяваных народных крыніц!

Па ўсяму відаць, што беларуская вёска „заўважыла" Таварыства Чырвонага Крыжу, што яна, як кажуць, „скранулася з месца".

Трэба зазначыць, што Чырвоны Крыж для сялянства мае выключна важнае значэньне. Калі прыняць пад увагу варункі спакойнага жыцьця, дык гэткія справы, як санітарная масавая прапаганда, будаўніцтва студняў і лазьняў на вёсцы, барацьба са ўсялякага роду брудам, забабонамі і соцыяльным ліхам, змаганьне з цемраю, за фортку і чыстае паветра ў хаце, за дзіцячыя ясьлі пад час летняе страды, за гарачы полудзень школьнікам, за брукаваньне непралазных вясковых вуліц, пасылка ўсялякага роду перасоўных габінэтаў,—зубных, вэнэролёгічных, вочных і інш.,—усё гэта справы практычныя і жыцьцёва-карысныя. Кожнае з гэтых заданьняў добра зразумела самаму адсталаму селяніну, - тут ня трэба шмат агітаваць і пераконваць. Селянін наш заўсёды быў і застаецца практычным,—таму-то лягчэй працаваць на вёсцы Чырвонаму Крыжу, калі ён дае тут-жа на вёсцы пэўную працу, пэўны вынік, які пры жаданьні можна „ўразумець на вобмацак".

Яшчэ большае значэньне мецьме Чырвоны Крыж у выпадку вайны. Што вайна няўнікнёна,—кожны ведае. Ведае таксама і селянін. Сваім праўдзівым адчуваньнем жыцьця, ён разумее, што барацьба сёняшнага дню са ўчарайшым, барацьба працы і капітала ва ўсім сьвеце яшчэ ня скончана, што яшчэ чака-

юць нашую працоўную краіну, якая пазбавілася ад паноў і памешчыкаў, чарговыя бітвы і змаганьні.

Але ня кожны ведае, наколькі важна быць да гэтае барацьбы падрыхтаваным. Толькі той, хто перажыў жахі мінулай імпэрыялістычнай вайны, хто на сваёй скуры перанёс усе цярпеньні бежанства, толькі той ведае, наколькі патрэбна масавая арганізацыя сялян загадзя.

Памятуеце тысячныя натоўпы ўцекачоў, што хмарай цягнуліся па дарогах, палёх і лясох Заходняй Беларусі ад Буга і Нёмана, туды, у цэнтральныя расійскія губэрні? Памятуеце, што рабілася тады па чугунках, па станцыях, нават па грунтовых шляхох? Чаго толькі не перажывалі ўцякаючыя сяляне, ня ведаючы да каго зьвярнуцца за дапамогай, дзе знайсьці прытулак і ад чаго чакаць паратунку ў бядзе.



„Папраўляюць здароўе". Хворыя на сухоты сяляне лечацца ў сялянскім санаторыі ў Крыме.

Калі масы сялянства ня будуць арганізаваны наперад,— падобныя падзеі могуць паўтарыцца яшчэ раз. Мы жывём пры самай граніцы, на нас у першую чаргу глядзяць джэрлы варожых пушак,—і нам тут, у Савецкай Беларусі, трэба ў першую чаргу і ў самым вялікім памеры быць арганізаванымі і да ўсяго падрыхтаванымі.

Справа апекі над бежанцамі ў выпадку вайны, дапамога ім, мэдычная і праўная, рэгістрацыя ўсялякага роду, транспартаваньне далей ад фронту, харчаваньне, абутак, дагляд за дзецьмі, жанчынамі і хворымі,—усё гэта згодна законам нашага Савецкага Саюзу ляжыць на Чырвоным Крыжу. Таварыства Чырвонага Крыжу і ёсьць тая грамадзкая арганізацыя, пад сьцягам якой і будзе адбывацца ўся гэтая праца.

Знача,—трэба цяпер-жа, як мага шырэй загарнуць сялянскія гушчы ў Таварыства Чырвонага Крыжу, зрабіць іх актыўнымі ўдзельнікамі агульнага клопату.

Без самых сялянскіх мас, бяз тысячаў, дзесяткаў і сотняў тысячаў членаў, Беларускі Чырвоны Крыж ня здоляе нічога зрабіць у гэтай аграмаднай і важнай справе. Па-першае, яна вымагае значных сродкаў,—а па-другое, яна вымагае яшчэ больш фізычнае сілы. Як можна раскінуць дапамогу сялянам на прасторы ўсёй Савецкай Беларусі, па ўсіх акругах і раёнах, якія займаюць тысячы вёрстаў, калі ў распараджэньні Таварыства ня будзе адпаведнай колькасьці працаўнікоў.

Трэба каб кожны селянін і сялянка былі сябрамі Чырвонага Крыжу, трэба каб у кожнай вёсцы былі свае Гурткі і Дружыны Першае Дапамогі, каб вялізная задача барацьбы з вайсковым ліхам, якое накаціцца да нас ад паноў з заходу, была выканана як сьлед.

Вось чаму Беларускі Чырвоны Крыж ставіць сабе цяпер заданьне, каб у кожным сельсавеце, у кожнай вёсцы была ячэйка Чырвонага Крыжу.

Сялянства адклікаецца. Сялянства ідзе на сустрач імкненьня Чырвонага Крыжу перакінуць у масавым памеры яго ідэі і яго заданьні на вёску. І ў гэтым надзвычайна ўсьцешная зьява часу.

„Прашу, каб вы прыслалі мне настаўленьне да арганізацыі Чырвонага Крыжу і што павінна рабіць вясковая ячэйка, каб яму дапамагчы на мейсцы",—піша селянін Ярмак Сава з вёскі Рэдкавічы, Бабруйскае акругі.

„Прачытаўшы той ваш ліст, каб організоўваць ячэйку Чырвонага Крыжу, то прашу дайце матар'ялаў і літаратуры, як і што трэба рабіць",—піша селянін Дзяшчэня Юсьцін, з вёскі Калюгі, Глухаўскага раёну.

„Паважаныя таварышы Чырвонага Крыжу. Просьба даць тлумачэньні па арганізацыі Чырвонага Крыжу, паскольку чалавек можна запісваць у ячэйку і г. д.—піша сялянка Дуброўская Аляксандра з Шапялёўскага с.-с., Астрашыцкага раёну, Менскае акругі.

„Прашу вас, прышліце матар'ялы і статут, як уступаць у Чырвоны Крыж, як арганізаваць ячэйку, прышліце літаратуры для нашага чырвонага кутка і плякатаў, гэта цікавіць сялян",—піша селянін Барысаў з вёскі Зароўе, Аршанскае акругі.

І ў гэткім жа стылю,—шмат.

З кожнага ліста, з кожнага паведамленьня так і скрозіць жаданьне сялянства „прыступіць да працы Чырвонага Крыжу, прылажыць руку да агульнай карысьці".

Калі падумаеш, што селянін напісаў уласнай мазольнай рукой пісьмо, што ён ахвяраваў 8 капеек на марку, здаў пісьмо на пошту,—дык ужо ведаеш, што тут запраўды жаданьне працаваць, што тут запраўдная здаровая ініцыятыва вёскі. Яна, казаў той, сама выпірае з няведамых кутоў, выходзіць на шырокі сьвет.

А малюнкі накшталт таго, які зьмешчаны ў гэтым-жа нумары „Бюлетэня" ніжэй, у разьдзеле „З сялянскіх лістоў"? Ці-ж гэта ня сьведчыць, што шырокія колы вясковага насельніцтва пачынаюць рухацца?

Рэкамандуем нашаму чытачу таксама ўважліва прачытаць тыя радкі, якія зьмешчаны тут-жа ніжэй аб працы аднаго з нашых актывістых—тав. Раханскага, на Магілеўшчыне. Прыклад Раханскага і яго мэтода можа быць ужыта нятолькі ў беларускім, але нават і ва ўсесаюзным маштабе.

Бяз усялякіх „цыркуляраў", не чакаючы загадаў з гары,— вясковы лекпом робіць запраўдную культурную рэвалюцыю ў сваім раёне, калі на працягу некалькіх месяцаў чытаў дзесятак дакладаў, ставіць агіт-пастаноўкі, арганізоўвае 18 ячэек, вядзе гурток Першай Дапамогі і г. д. Запраўды, трэба толькі падыходзіць да сялян „псыхолёгічна", г. зн. не па сухому, не бюрократычна, а з жывым словам тлумачэньня і заахвочваньня, каб яны масай ішлі ў карысную для іх арганізацыю.

Падобных таварышоў, як Раханскі, сёньня Беларускі Чырвоны Крыж налічвае ўжо ня мала. Праўда, яны яшчэ далёка ня ўсё выяўлены. Ніхто ня ведае, што ў глухім кутку Асіпавіцкага раёну ёсьць доктар Галубчык, якая з гэткай-жа адданасьцю, як і Раханскі, чытае сялянкам лекцыі, вядзе „за шчырую падзяку" Гурток, змагаецца з цемрай, шаптунамі, забабонамі; што на тэй-жа Бабруйшчыне ёсьць „беларус з самаедаў тав. Гальдобэн, якога запраўды можна назваць „чырвона-крыжным патрыётам" і г. д. Не дзесяткі.—сотні ўжо ёсьць людзей, якія аддана і з захапленьнем працуюць пад сьцягам Чырвонага Крыжу, вядуць актыўнейшую работу ў нізох па падрыхтоўцы санітарнае абароназдольнасьці нашае соцыялістычнае бацькаўшчыны.

З гэткім актывам Беларускае Таварыства можа быць спакойна. Дзякуючы гэткаму актыву яно здоляе спраўдзіць свае заданьні на выпадак вайны, калі прыдзецца прыняць пад свой дагляд мільёны працоўных у тылу вайны.

Цяперашні 2-гі Зьезд Беларускага Чырвонага Крыжу павінен зьвярнуць увагу на тое, каб мага хутчэй да канца *выявіць свой сялянскі актыў*.

Гэта ня так лёгка зрабіць, як здаецца на першы пагляд. Не дарма скардзяцца дапішчыкі нашага „Бюлетэня“, што галоўнай перашкодай у працы,—гэта адарванасьць, адсутнасьць сувязі. Сядзіць чалавек у сваёй вёсцы, робіць па сваім здольнасьцям і магчымасьцям ня мала,—а ніхто аб гэтым ў цэнтры ня ведае Між тым *толькі дасканала ведаючы свой актыў і трымаючы з ім самую жывую і дзейную сувязь, можна выкарыстаць гэты актыў у належнай меры*. Толькі тады, калі гэты актыў будзе вядомы па прозьвішчам і імёнам, калі яму будзе весьціся самы дасканалы і чоткі падлік,—толькі тады можна сапраўды чынна пашыраць арганізацыю.

Апрача таго,—толькі тады можна разьвіваць праграму Чырвонага Крыжу і быць гатовым да наступнай работы ў выпадку вайны, калі гэты актыў быў і будзе *расьці якасна*,— гэта знача, калі ён будзе ўсё больш і больш адукаваным, асьвечанным, тэхнічна падрыхтаваным. Спусьціцца толькі на тое, што ёсьць людзі,—мала. Трэба ведаць, што гэтыя людзі *растуць разам з вымогамі жыцьця*. Цэнтральны Камітэт у гэтым напрамку робіць, што можа. Але кожнаму зразумела, што галоўная роля па перакідцы Чырвонага Крыжу на вёску, ў шырэйшыя масы сялянства,—належыць мясцовым Камітэтам, перш за ўсё Раённым.

Акруговыя і, кажам мы, *асабліва* Раённыя Камітэты павінны, адкінуўшы папяровасьць і перапіску па „исходящим“, жывым парадкам зарэгістраваць сялянскі актыў Чырвонага Крыжу і падтрымліваць з ім сувязь. На што іншае,—але на гэтую справу не шкада ніякіх сродкаў. Лепш з'эканоміць на чым іншым, але не на тым, каб лішні раз паехаць у раён, у сельсавет,—напісаць лішні ліст таму, ці іншаму селяніну, або сялянцы.

Не малую ролю аддаем мы пры гэтым і „Бюлетэню“ Чырвонага Крыжу. Трэба згадзіцца, што да самага апошняга часу адносіны да яго з боку мясцовых (акруговых і раённых) Камітэтаў былі занадта фармальнымі.

Раз на заўсёды з гэтым трэба скончыць. Калі ў „Бюлетэні“ на будучыну ня будзе жывых паведамленьняў з мейсц,— знача там запраўды мала што робіцца. Нашая чырвона-крыж-

ная часопісь павінна быць запраўдным *люстрам нашае працы*,—і таму мы непасрэдна зьвязваем разьвіцьцё „Бюлетэню“ з разьвіцьцём і ўзмацненьнем нашага вясковага актыву.

Ямчэй бярэцеся—за рэальную працу на вёсцы!

Шпарчэй выяўляйце сялянскі чырвона-крыжны актыў і мацней з ім зьвязвайцеся!

Сёньня—гэта самае ўдзячнае заданьне.

*Аляксандр Цьвікевіч*




Сялянскі санаторы „Лівадыя“ на Крымскім узьбярэжжы.

# Аб падрыхтоўцы „сацыяльных сясьцёр“

Недахоп добра падрыхтаваных сясьцёр, як і наогул сярэдняга мэд. пэрсаналу для працы ў горадзе і на вёсцы, а таксама нявысокая кваліфікацыя існуючых кадраў сясьцёр,— даўно непакоіць усіх тых, хто бліжэй стаіць да шырокіх заданьняў грамадзкай мэдыцыны. У роўнай меры пашырэньне і паглыбленьне дзейнасьці Чырвонага Крыжу, асабліва яго пэрафэрычных організацый няўнікнена натыкаецца на адсутнасьць кадраў працаўнікоў, належна прасягнутых ідэямі Чырвонага Крыжу ў справе аздараўленьня быту насельніцтва і ўцягненьне шырокіх працоўных мас у будаўніцтва новага, больш здаровага жыцьця.

Санітарная бяспомачнасьць насельніцтва, якая зьяўляецца вынікам шматвекавай няволі, імпэрыялістычных і грамадзкіх войнаў да сяго часу яшчэ ня зьнішчана. Патрэбна вялізная канцэнтрацыя ўсіх нашых сіл і напружанасьць волі ўсёй нашай грамадзкасьці, каб перамагчы гэтую бяспомачнасьць, гэтую спадчыну царызму і панаваньня абшарнікаў.

У шырокіх колах нашай грамадзкасьці, што блізка стаяць да пытаньняў аздараўленьня быту, як гарадзкога, так і вясковага насельніцтва, яшчэ ня вывучана тое даволі простае палажэньне, што адным толькі ўкамплектаваньнем больніц, амбуляторый, консультацый і г. д. патрэбным пэрсаналам, далёка ня вычэрпваюцца і не разьвязваюцца задачы сацыяльнай мэдыцыны. Вялікая санітарная неадукованасьць насельніцтва, якая асабліва рэзка кідаецца ў вочы на вёсцы, у большасьці выпадкаў астаецца па-за ўвагай мэдпэрсаналу больніц, занятага непасрэдным даглядам за хворымі і выкананьнем тых ці іншых лячэбных працэдур. Гэтае зьявішча асабліва тычыцца да сярэдняга пэрсоналу наогул і ў высокай меры да больнічных сясьцёр, якія, як правіла, амаль не выкарыстоўваюцца дзеля санітарна-асьветнай і профіляктычнай працы.

І ці можна лічыць існуючыя кадры сясьцёр падрыхтаванымі да такой працы. Па сутнасьці справы яны зьяўляюцца тэхнічнымі памочніцамі дактароў, гэта знача лепшымі, ці горшымі выканаўцамі доктарскіх загадаў. Натуральна, што далей звычайных, трафарэтных, больш менш навычных працэдур,

яны у сваёй рабоце ня йдуць і ісьці ня могуць. Між тым роля сястры сацыяльнай дапамогі, ці, як мы у далейшым будзем яе называць „сацыяльнай сястры“, у справе распаўсюджаньня пачатковых гігіенічных ведаў, ліквідаваньня пануючага на вёсцы знахарства і featured рознага роду забабонаў, можа быць вельмі значнаю.




Ва ўмовах нашай супраўднасьці барацьба за аздараўленьне быту перакідаецца ў дробную штодзённую працу па ўкараненьні сярод насельніцтва гігіенічных навыкаў і правільных уяўленьняў аб ролі і сутнасьці розных занядужаньняў. Барацьба з сацыяльнымі хваробамі, асабліва з пагражаючым пашырэньнем у апошнія гады на вёсцы лёгачнага тубэркулёзу, барацьба з дзіцячаю сьмертнасьцю, увесь наогул камплект мерапрыемстваў па барацьбе з пошасьцямі—толькі тады атрымаюць належную пастаноўку, калі мы зможам падрыхтаваць і на практычнай працы закаліць кадры сацыяльных сясьцёр, актывістак-грамадзянак, стоячых на вышыні чарговых задач барацьбы за лепшы быт.

Калі роля сацыяльнай сястры можа быць вельмі значнай у мірных абставінах, дык ня менш, калі ня больш істотнай можа зьявіцца яе праца ва ўмовах вайсковага часу. Характар будучай вайны, калі ва ўсе вайсковыя няўзгоды будзе ўцягнута грамадзянскае насельніцтва, пры адсутнасьці рэзкай ад-

мяжовасьці, паміж паняцьцем „фронт“ і „тыл“,—ускладае на нас выключныя клопаты аб сталым санітарным абслугоўваным „тыле“.

Правідловая арганізацыя кармленьня, ахова здароўя дзіцячага насельніцтва, якое асабліва балюча рэагуе на ўсе вайсковыя разрухі, абслугоўваньні тысячных хваляў уцекачоў—усё гэта патрабуе для свайго ажыцьцяўленьня наяўнасьці вялікіх кадраў працаўнікоў, у тым ліку асабліва сацыяльных сясьцёр. Мы не кранаем пытаньня аб санітарным абслугоўваньні Чырвонай Арміі, бо тут роля сацыяльнай сястры, побач з хірургічнай сястрой ці сястрой звычайнага больнічнага тыпу, цалкам відавочна. Дзеля гэтага нам здаецца своечасовым у сучасны момант у належнай меры абвастрыць пытаньне аб падрыхтоўцы такіх сясьцёр-грамадзянак і прыцягнуць да яго ўвагу ўсёй нашай савецкай грамадзкасьці. Можна лічыць бязумоўным, што сярод нашага гарадзкога і вясковага актыву знойдзецца здавальняючы контынгент работніц і сялянак-грамадзянак, зусім прыгодных для працы ў якасьці сацыяльных сясьцёр. Неабходна толькі, каб Чырвоны Крыж, яго цэнтральная, акруговыя і нізавыя арганізацыі ўзялі на сябе ініцыятыву ў справе стварэньня такіх курсаў. А патрэбныя для гэтага матар‘яльныя сродкі і кадры кіруючых выкладчыкаў напэўна знойдуцца.

*Д-р А. Баран*




## Надыходзіць лета

Таварышы па Чырвонаму Крыжу!
Кіраўнікі ячэек!
Увесь наш чырвона-крыжны актыў!



„Адчуваю сябе вельмі добра! Дзякую ячэйцы Чырвонага Крыжу за дагляд“

Надыходзіць лета, калі на вёсцы працоўная жанчына будзе прымушана рабіць дзьве работы: адну—па гаспадарцы, трымаючы на сваіх плячох і апрацоўку поля і дагляд за домам; і другую — па даглядам за сям'ёй, за малымі дзецьмі.

Мы павінны ёй дапамагчы. Дапамагчы працоўнай сялянцы даглядзець за малым дзіцем, палегчыць ёй страдную пару,— гэта наш просты абавязак

Найлепшая форма дапамогі,—гэта арганізаваць ясьлі. Як іх зрабіць, ведае кожан за вас; трэба зглажыцца, наняць жанчыну, якая ўмее хадзіць за дзецьмі і ведае асновы гігіены, знайсьці вольную хату, ды паставіць некалькі ложак у ёй. Цацкі для дзяцей лёгка самому зрабіць, — не вёсцы гэта рэч простая.

Зьвязвайцеся ў гэтай справе з аддзеламі Наркамата Здароўя, па ахове мацярынства і маленства. Заахвочвайце раённыя камітэты,—бярыце на сябе ініцыятыву ў гэтай карыснай і цікавай працы.

Гэтым вы зробіце добрую справу для грамады,—ды й падымеце значэньне Беларускага Чырвонага Крыжу.

*Маці*

---

# Да адкрыцьця зубной паліклінікі Беларускага т-ва Чырвонага Крыжу

У першыя дні траўня ў г. Менску адкрываецца арганізаваная Беларускім Чырвоным Крыжам першая ў БССР *„Паліклініка зубных хваробаў і поласьці рота“*. Падрыхтавана яна згодна апошнім запатрабаваньням навукі.

Гэтая скромная на першы пагляд падзея зьяўляецца вялікім сьвятам для беларускай одонтолёгіі. Але і для ўсяго грамадзянства Савецкай Беларусі гэтая новая перамога на культурным фронце зьяўляецца зьявішчам вельмі дадатным.

Хваробы зубоў зьяўляюцца адным з найбольш распаўсюджаных захварэньняў чалавечага арганізму і з поўным правам залічаюцца цяпер вучонымі нашага Савецкага Саюзу і замежнымі вучонымі да групы так зв. „сацыяльных хваробаў“. Шкода, якую прыносяць арганізму зубныя хваробы, значна шырэйшая і глыбейшая, чым гэта прынята думаць. Апрача звычайных запаленьняў пульпы (па штодзённай тэрміналёгіі „нэрва“), накосьніцы, якія пазбаўляюць хворых сну і спакоя, зубныя хваробы могуць выклікаць артрыты, захварэньне органаў звароту крыві (эндокардзіты і міокардзіты), органаў траўленьня (язвы жалудка, апэндыцыты і інш.), мачаплоцьцявых органаў, вачэй, нэрвовай сыстэмы і г. д.

Гэтая, як-бы незразумелая сувязь паміж зубнымі хваробамі і ўсім організмам даведзена экспэрымэнтальнымі і клінічнымі назіраньнямі амэрыканскіх вучоных, якія стварылі цэльную тэорыю аб так зв. „ротовым сэнсісу“. Сутнасьць гэтае тэорыі складаецца з таго, што ў асобных вопухаватых утварэньнях (т. зв. „зубных гранулемах“), якія знаходзяцца над вярхушкай зуба ў сківіцы, вялічынёй у гарошыну, знайходзяцца мікроорганізмы. Час ад часу яны пераходзяць у ток звароту крыві і адтуль трапляюць у розныя органы.

На жаль, шырокія колы насельніцтва не даволі знаёмы са шкоднасьцю зубных хваробаў,—асабліва гэта датычыць, зразумела, беларускае вёскі.

Падлічваючы ўсе гэтыя абставіны, Беларускае Т-ва Чырвонага Крыжу арганізавала шэраг перасоўных зубных габінэтаў, а ў сучасны момант рыхтуе ў Менску цэнтральную ўстанову, якая будзе ня толькі займацца лячэбнай і асьветнай працай у цэнтры, але і кіраваць усім гэтым вялікім пачынаньнем у самых адлеглых кутках БССР.

З гэтай мэтай пры Поліклініцы будуць адчынены курсы ўдасканаленьня для зубных дактароў, на якія будуць пераважна прыймацца дактары, якія працавалі ў гушчы сялянскага насельніцтва, г. ё. участковыя зубныя дактары. Праграма курсаў складаецца гэткім парадкам, каб зубны доктар павярнуў да сваёй працы на ўчастку ня толькі спэцыялізаваўшыхся па сваёй спэцыяльнасьці, але і наогул з пашыраным мэдычным сьветапаглядам. Прысутнасьць у поліклініцы кадра прафэсароў і выкладчыкаў БДУ, забясьпечвае саліднасьць гэтых курсаў у навуковым сэнсе.




Гурток Першай Дапамогі пры Роце Сувязі N-га Корпуса

Асаблівая ўвага будзе зьвернута Поліклінікай на школу мэдычных сясьцёр Чырвонага Крыжу ў сэнсе больш высокай кваліфікацыі іх ведаў у галіне зубных хваробаў. Гэтае пытаньне робіцца цяпер для мэдычных сясьцёр асабліва важным у сувязі з праэктаваным кадрам зубных сясьцёр, якія, падобна таму, як хірургічныя сёстры робяць пад наглядам доктара

перавязкі, плямбавалі-б пад наглядам одонтолёга зубы. Стварэньне падобнага кадра безварункова палегчыць справу барацьбы з зубнымі хваробамі на вёсцы.

Чарговым заданьнем Поліклінікі зьяўляецца дапамога Чырвонаму Крыжу і Наркомахове здароўя ў галіне распаўсюджаньня санітарна-гігіенічных ведаў, шляхам чытаньня папулярных лекцыяў і выданьня папулярных брашур на одонтолёгічныя і стоматолёгічныя тэмы.

Аднак зусім выключную важнасьць і значэньне меціме дзейнасьць Поліклінікі ў вайсковы час. Лячэньне сківічных раненьняў вымагае цеснае сувязі хірургіі і одонтолёгіі і вылучана дзеля гэтага ў асобую спэцыяльнасьць. Дасьведчаньне сусьветнае вайны паказала, як вялікі лік раненьняў ў сківіцы і як важна правільная мэдычная дапамога ў гэтым сэнсе на фронце.

Вывучэньне асноў навукі аб сківічных раненьнях, лячэньне іх і першая дапамога ў гэтых выпадках з боку мэдычных сясьцёр Чырвонага Крыжу—будзе складаць адзін з галоўнейшых пунктаў праграмы Поліклінікі. У першы дзень вайны яна павінна будзе разьвярнуцца менавіта ў спэцыяльны „сківічны шпіталь“, дзе дзякуючы спэцыяльнай падрыхтоўцы, лячэньне будзе даваць безварункова лепшыя і хутчэйшыя вынікі.

У сувязі са ўсім паказаным, арганізацыйныя формы Поліклінікі ствараюцца гэткім чынам, каб у адпаведны момант адразу перайсьці да выкананьня вайсковых запатрабаваньняў. Дый у бягучы нават момант шмат яшчэ ёсьць інвалідаў, якія не ў давольнай ступені забясьпечаны адпаведнымі сківічнымі протэзамі.

Цікава, што, ня гледзячы на гэткі вялікі маштаб проэктаванай працы, Поліклініка будзе прыймаць раньніцай бясплатна ўсіх грамадзян, а ўвечар рабіць гэткую-ж кваліфікаваную дапамогу па самай ніжэйшай расцэнцы, пакрываючы гэтым свае выдаткі па дармоваму прыёму.

Цесная сувязь, якая існуе паміж Поліклінікай Беларускага Чырвонага Крыжу і катэдрай стоматолёгіі Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсітэту, якая цалкам пераносіць сваю навучальную, практычную і навуковую дзейнасьць у памяшканьне Поліклінікі, лепш за ўсё характарызуе паважнасьць будучай працы.

Пажадаем-жа ўсялякага посьпеху гэтай новай ініцыятыве савецкай грамадзкасьці, аб'яднанай пад сьцягам Беларускага Чырвонага Крыжу.

Дацэнт БДУ *І. Старобінскі*

# ПА АКРУГАМ

## Сялянскія ячэйкі Чырвонага Крыжу ў Камаровіцкім Мэд. Раёне

Пасьля Райканфэрэнцыі Чырвонага Крыжу ў Чэрыкаўскім раёне пры канцы 1927 г., я распачаў працу па арганізацыі вясковых сялянскіх ячэек. За якіх 2 месяцы я арганізаваў і аформіў іх 17. Лічба сяброў ва ўсіх ячэйках па 17 вёсках—631 чал., з якіх: мужчын-сялян—316, жанчын-сялянак—98, вучняў—174, служачых—43. Сабрана сяброўскіх узносаў 105 р. 69 кап. і ад пастаноўкі спэктакляў 6 р. 50 к., якія накіраваны ў Магілеўскі Акруговы Камітэт.

**Нашыя актывісты.**



Тав. М. Раханскі—арганізатар 17 сялянскіх ячэек Чырв. Крыжу ў Камаровіцкім раёне, на Магілеўшчыне.

З атрыманых ад Акруговага К-ту Чырвонага Крыжу плякатаў і літаратуры (на 20 руб. дармова), я пабудаваў пры мэдпункце „Хату санітарнай асьветы“, у якой ёсьць цяпер 4 куткі: 1) па алкагалізму—з лёзунгамі, напрыклад: „Самагон руйнуе твой арганізм, калечыць дзяцей, руйнуе тваё сямейства і гаспадарку“, 2) па туберкулёзу з лёзунгамі: „Сонца, сьвежае паветра, чыстая і сьветлая хата—ворагі сухотаў і прыхільнікі сялян“, 3) па ахрмладу з лёзунгам: „Сялянка, ідзі да акушэркі, а не да бабкі, бабка калечыць цябе і тваё дзіцяця“, 4) па Чырвонаму Крыжу з лёзунгамі: „Уступай у Т-ва Чырвонага Крыжу—будзеш мець здаровы быт“.

Вось гэтымі лёзунгамі сяляне дужа цікавяцца; я з свайго боку кожны дзень вяду гутарку з хворымі аб іх хваробе і гэтую гутарку звычайна зьвязваю з папулярызацыяй задач Чырвонага Крыжу, якім сяляне цікавяцца.

У той вёсцы, дзе намечана па пляну арганізаваць ячэйку, я чытаю інфармацыйны даклад аб Белар. Т-ве Чырвонага Крыжу, пасьля якога вядзецца запісь у ячэйку. У бягучых справах выбіраецца Бюро ячэйкі і Сан. Камісія. Пасьля агульнага сходу адбываецца пасяджэньне Бюро ячэйкі, на якім разьмяркоўваюцца абавязкі. Такім чынам я арганізаваў 17 ячэек, для якіх выпрацаваў каляктыўны плян працы, з якім Акруговы Камітэт Чырвонага Крыжу згадзіўся.

Самая яскравая ў пляне праца—гэта праца санкамісій. Апошнія паскладалі іменныя сьпісы сваіх вёсак і кожны месяц абходзяць хаты і адзначаюць іх санітарнае становішча. Потым на пасяджэньні прэзыдыуму ячэйкі або агульнага сходу робяць справаздачу, з паказаньнем прозьвішчаў тых гаспадароў, у якіх чыстыя хаты. Пасьля справаздачы санкамісій, кожны селянін і сялянка стараюцца стаць у шэрагі чыстых.

Па гэтай працы адзначаліся і стаяць на першым і паказальным мейсцы ячэйка № 15, вёскі *Маляцьі*, Горкаўскага сельсавету—добрыя працаўнікі: *Мікалаенка* Кацярына і *Карнеенка*. Дзякуючы іх зацікаўленасьці і актыўнасьці сяляне на 100% уступілі сябрамі Чырвонага Крыжу, унесьлі адразу ўсе сяброўскія ўзносы за 1928 год, зрабілі сцэну ў школе дзеля пастаноўкі спэктакляў, ставілі адну сан. п'есу: „Дрэнны самагоначны канец“, ад якога атрымалі чыстага даходу на карысьць Чырвонага Крыжу 1 руб. 50 кап. На другім мейсцы па працы ідзе ячэйка № 8, в. *Вудыгі* II, *Палавецкі* Сямён і *Мікалаенка* Янка; ячэйка № 5 в. *Губенічыньне* ставіла спэктакль на карысьць Чырвонага Крыжу і выручыла 5 руб.; ячэйка № 11 в. *Зоры*, вучыцель *Шутаў*, які праявіў шмат актыўнасьці па ўцягненьні сялян у сябры ячэйкі. Рэшта ячэек працуе здавальняюча.

Пры кожнай ячэйцы я арганізаваў куток Чырвонага Крыжу, а пры іх сан. бібліятэчкі на 5 кніг кожная. Гэтыя бібліятэчкі я мяняю па кантрольнаму сьпіску, дзякуючы чаму кожная ячэйка за зімовы тэрмін прачытала ўсе 14 бібліятэчак, якія ёсьць ў маім распараджэньні. Чытаюць кнігі звычайна калектыўна, у голас. Гэтай літаратуры для ўсіх ячэек не хапае. Пажадана мець на кожную ячэйку асобную бібліятэчку.

Самым моцным і паказальным кутком Чырвонага Крыжу зьяўляецца куток Камаровіцкай хаты-чытальні, у якой бывае шмат моладзі. Апошняя цікавіцца маімі лекцыямі, якія я чытаю на сан. асьветныя тэмы.

Наогул скажу, што селянін і сялянка цікавяцца арганізацыяй Чырвонага Крыжу і лёгка тады ідуць у яе, калі псыхолёгічна падыходзіш да іх. З пачатку студзеня м-ца 1928 г. я праводжу агульныя сходы па ячэйках, на якіх чытаю сваю

справаздачу аб працы па арганізацыі 17 ячэек, пасьля якой сяляне бываюць здаволены і тут-жа ўступаюць у Бел. Т-ва Чырвонага Крыжу. Пасьля справаздачы чытаю лекцыю па алкагалізму з дэманстрацыяй малюнкаў і дыяграмаў; пасьля лекцыі выпрацоўваецца рэзалюцыя, у якой на першым месцы стаіць арганізацыя гуртка трэзвасьці. За студзень і люты м-цы я прачытаў 17 справаздач і 17 лекцый па алкагалізму.

Вялікай перашкодай у маёй арганізацыйнай і сан. асьветнай працы зьяўляецца раскіданасьць вёсак і пасёлкаў, у зьвязку з чым сяляне зьбіраюцца на сходы з вялікім спазьненьнем і прыходзіцца чакаць з адкрыцьцём сходу лішніх 2-3 гадзіны; гэта шкодзіць мне ў лекавай працы на пункту, дзе я толькі адзін працаўнік. Глыбокім вечарам, а то і ў начы прыходзіцца вяртацца да дому. Патрэбны быў-бы мне памочнік—акушэрка, вось тады і жаночая праца пойдзе шпаркімі крокамі. Сяляне дужа цікавяцца асабліва барацьбой з трахомай, якою заражаны ў маім Камаровіцкім мэд. раёну каля 10 вёсак на 20%.

Прашу ЦК Чырвонага Крыжу зьвярнуць на гэта ўвагу і дапамагчы сялянству прысылкай вочнага атраду. Калі цяпер 50% сямей ахоплена Чырвоным Крыжам (% вылічаецца па ліку двароў), то пасьля прыбыцьця атраду можна спадзявацца, што ўсе 100% сялян уступяць у сябры Бел. Т-ва Чырвонага Крыжу.

Упаўнаважаны ад Магілеўскага Акркамітэту
Чырвонага Крыжу Камаровіцкага мэдраёну *Раханскі*

---

## Як прайшлі сьвяткаваньні 10-й гадавіны Чырвонай арміі па Менскай акрузе

На грунце прапановы Цэнтральнага Камітэту Беларускага Т-ва Чырвонага Крыжу аб удзеле Менскага Акруговата К-ту ў сьвяткаваньні 10-й гадавіны Чырвонай Арміі і 8 сакавіка была створана камісія ў складзе 3-х асоб, якім было даручана распрацаваць плян удзелу, як для Акруговага, так і для раённых К-таў Т-ва.

У зьвязку з гэтым была склікана ў Менску нарада гар. актыву, на якой былі абгавораны ўсе зьвязаныя з сьвяткаваньнем пытаньні.

22 лютага ў агульнай дэманстрацыі па гор. Менску прымала ўдзел і санітарная калёна Чырвонага Крыжу, у ліку звыш 500 чал. Для падачы першай дапамогі былі створаны 3

пункты, дзе дзяжурылі таварышы, гурткі, супольна з доктарамі, якіх вылучыў гарнізон.

Ка дню Чырвонай арміі было выпушчана 6 гурткоў, у колькасьці 90 чал. ад 175 запісаўшыхся (зав. „Красная Заря“ зав. „Варшавянка“, Соўгандл. служач., НКФ, Меншвэй, Лесбел).

Вялікі ўдзел санітарныя гурткі першай дапамогі прымалі ў сьвяткаваньні „Дню Жанчын“—8 сакавіка. У сувязі з гэтым сьвятам было выпушчана 19 гурткоў, з якіх у Менску 12 гурткоў; на раёнах—7.

Па г. Менску па аднаму гуртку

| | |
|---|---|
| пры—Кожзаводах. | пры—ВСНГ. |
| „ —Наркамземе. | „ —Міліцыі. |
| „ —2-й друкарні. | „ —Гандл. Буд. Трэсьце. |
| „ —Гос. Гандл. Бел. | „ —Польск. клюбе. |
| „ —БДУ | „ —ЦРА. |
| „ —МББ ЧШ. | „ —Жакце № 27. |

Па раёнах: Койданаўскі—2 гур., Халопеніцкі—1, Лагойскі—1, Сьмілавіцкі—1, Копыльскі—1, Плешчаніцкі—2.

7-га сакавіка была зроблена спэцыяльная дэманстрацыя Гурткоў Першай Дапамогі, на якой прысутнічала звыш 700 чал. Дэманстрацыя спачатку прайшла па гораду, пасьля чаго ўсёй калёнай зьявілася на ўрачыстае пасяджэньне, скліканае ў сувязі з сьвяткаваньнем 8 сакавіка.

Некаторыя Гурткі Першае Дапамогі ладзілі ўрачыстыя сходы, дзе праводзілі выпускі Санітарных Гурткоў; мясцкомы віншавалі скончыўшых падарункамі—нарукаўнікамі, касынкамі і знакам Чырвонага Крыжу. Усяго за час сьвяткаваньня 10-й гадавіны Чырвонай арміі і 8-га сакавіка па ўсёй Менскай акрузе было выпушчана 25 Гурткоў Першае Дапамогі ў складзе 420 чал. Па гор. Менску з запісаўшыхся 467 чал. скончыла—240 чал., якія склалі—18 Гурткоў. Па 6-цёх раёнах—7 Гурткоў, якія пералічаны вышэй.

За гэты час арганізавана новых Гурткоў Першае Дапамогі—9. Гурткі Першае Дапамогі на прадпрыемствах і установах прымалі ўдзел у насьценным друку, дзе пісалі аб дзейнасьці Гурткоў Першае Дапамогі і аб задачах Т-ва Чырвонага Крыжу.

Трэба наогул адзначыць, што мінулыя сьвяты асабліва пашырылі працу Т-ва па Менскай Акрузе.

Сакратар Менскага Камітэту *Х. Ціхантоўскі*

# На Акруговым Зьезьдзе Магілеўшчыны

У мінулыя гады, калі па ўсіх Акругах праводзіліся Зьезды Т-ва, у Магілеўшчыне гэтага зрабіць было немагчыма па прычыне слабасьці арганізацыі. Сёлета становішча зусім іншае: зьезд прызначаны на 14-ае, а ўжо 13-га красавіка прыехалі дэлегаты з раёнаў дзякуючы апошняму расьпісаньню цягніка.

Для працы зьехалася з Магілеўскай здраўніцы 20 дэлегатаў, пры чым ад раёнаў: Кармы, Краснапольля, Прапойска, Чавус, дэлегаты з-за дрэннага падарожжа-распуціцы ня прыехалі. Ад гораду Магілеву было 50 дэлегатаў.



Зьезд Магілеўскага Акруговага Камітэту Чырвонага Крыжу.

Зьезд адчыніўся 14-га Красавіка а 6 гадзіне ўвечары. Вячэрняе пасяджэньне Зьезду было прысьвечана адчыненьню і прывітаньням. Апрача прывітаньняў з боку розных арганізацыяў, было прывітаньне ад Санітарнай дружыны Чырвонага Крыжу, якая арганізаваным парадкам зьявілася на зьезд дзеля падачы рапарту аб сваёй падрыхтаванасьці і гатоўнасьці выконваць першую дапамогу.

Пасьля ўрачыстай часткі дэлегатам перадалі білеты ў тэатр, на пастаноўку 2-га Бел. Дзяржаўнага Тэатру.

На другі дзень, 15-га красавіка 1928 г. Зьезд распачаў сваю працу. Першым быў заслуханы даклад аб дзейнасьці ЦК, які рабіў тав. Фрыдман. Гэты даклад выклікаў жвавыя спрэчкі. Выступаючыя ў спрэчках застанаўліваліся галоўным чынам на тых недахопах, якія назіраюцца ў працы Цэнтральнага Камітэту, як то: недаволі жывая сувязь з мейсцамі, недастатковая праца сярод сялянства, незабясьпечанасьць Гурткоў Першай Дапамогі неабходнай літаратурай і г. д.

Пасьля адпаведных тлумачэньняў і заключнай прамовы тав. Фрыдмана, была заслухана справаздача аб дзейнасьці Магілеўскага Акркамітэту, за час працы яго з 1926 года. Па дакладу выказаліся да 15 дэлегатаў, якія адзначаючы шэраг зробленых дасягненьняў Акруговага Камітэту і ажыцьцяўленьне яго працы асабліва другой паловы 1927 г., таксама крытыкавалі. Крытыка была здаровая—пераважна аб тых людзёх, якія ведаюць справу і вынясьлі яе на сваіх плячох.

Як галоўныя дасягненьні—гэта: 130 ячэек Чырвонага Крыжу, з якіх 59 выключна сялянскія, 16 райкамітэтаў, 1 вучастковы камітэт і арганізацыя Санітарнай Дружыны да 5500 сяброў; у галіне сан.-асьветнай працы—арганізацыя Дома Асьветы ў Камаровічах, чытка лекцыяў і г. д.

У сваіх пастановах, як па дакладу ЦК, а таксама Акркамітэту зьезд, падкрэсьліўшы ўсе хібы, якія былі да гэтага часу—намеціў шэраг мерапрыемстваў для іх зьнішчэньня і шырэйшага разгарненьня дзейнасьці Чырвонага Крыжу на Магілеўшчыне.

Пасьля таго быў абраны новы склад Акркамітэту і дэлегаты на Ўсебеларускі Зьезд.

*Паткоўскі*

---

# У справе ваенізацыі жанчын

## Вайсковая гульня ў г. Воршы

Ня гледзячы на досыць халоднае надвор'е і раньні час 19 лютага г/г. слухачы Гурткоў Першае Дапамогі гор. Воршы сабраліся да вызначанага часу і сумесна з батальёнам АсоАвіяхіму выступілі за горад дзеля прыняцьця ўдзелу ў вайсковай гульні. Слухачы Гурткоў захапілі з сабой сумкі першае дапамогі з наборам мэдыкамэнтаў, перавязачны матар'ял і мелі на левай руцэ павязку Чырвонага Крыжу. Выходзячы за горад батальён разьвярнуўся ў баявой парадак і павёў наступленьне на праціўніка які ўмацаваўся на высотах.

Камандаваньнем батальёна было дано распараджэньне Начальніку Санітарнае Дружыны Чырвонага Крыжу разьвярнуць перадавы шпіталь у раёне подступаў да высотаў, а таксама аб прызначэньні пяці чалавек санітарак на кожную роту для непасрэднага ўдзелу ў наступленьні з мэтай аказаньня першае дапамогі ўдзельнікам бою і вынасу раненых з сфэры агню да перадавога шпіталя.

Задача ўскладзеная на Чырвоны Крыж, была разьвязана бліскуча, як у сэнсе падачы першае дапамогі ўдзельнікам бою, так і ў сэнсе выбару мейсца для шпіталю.

Месца для разгортваньня шпіталю было выбрана зусім удала: ахоўнае ад арудзійнага агню праціўніка, з наліччам шляхоў зносін дзеля транспарта раненых у тыл, блізка піцьцёвай вады, у сухой мясцовасьці і г. д. Усе гэтыя моманты слухачы Гурткоў вывучылі на практыцы, і бязумоўна атрыманыя веды па разгортваньні шпіталю ў баявой абстаноўцы і падачы першай дапамогі байцом вельмі прыдадуцца ўсім у выпадку патрэбы.

*Баракоў*

---

## Бой—інсцэніроўка ў Магілеве

Напярэдадні сьвяткаваньня дзесяцігодзьдзя Чырвонай Арміі адбыўся паказальны бой паміж белымі і чырвонымі, які быў разгорнуты паміж гарадзкім валам і Лупалавым. У гэтым баі прымалі ўдзел 40 чырвоных сясьцёр і санітарак, каторых падзялілі на дзьве групы, першую з белагвардзейцамі, якія нібыта занялі Магілеў і другую з чырвонаармейцамі ля Дняпра.

Я трапіла да белагвардзейцаў на валу, дзе і быў наш падрыхтаваны мэдпункт са ўсімі належнымі прыладамі дзеля аказаньня першае дапамогі. Да нашай палаткі быў прымацаваны лекпом т. Суздалкін, які даваў нам указаньні і тлумачэньні ў працы.

Пачаліся першыя стрэлы і пачаўся бой. Чырвоныя пайшлі ў наступленьне і адбілі ў белых Магілеў. Пачуліся стогны мніма-ранных, і тут вось пачалася наша праца. Мы іх клалі на насілкі, бралі пад рукі і цягнулі ў мэдпункт на вал, дзе рабілі першую дапамогу.

Бой скончыўся поўным паражэньнем белых. Агулам ён прайшоў даволі добра і даў нам магчымасьць выкарыстаць свае веды ў баявых абставінах.

Больш-бы гэткіх баёў-інсцэніровак, якія служаць добрай пробай нашых ведаў і нашае падрыхтоўкі дзеля аказаньня першае дапамогі.

*Трускова*

# Капыльскі раённы камітэт за працай

*(з 11/IV 27 г. па 26/II 28 г.)*

Праца па арганізацыі ячэек Бел. Т-ва Чырвонага Крыжу па Капыльскаму раёну пачалася ў восень 1926 году і праводзілася быўшым тады Упаўнаважаным Слуцкага Акруговага К-ту доктарам Міхалоўскім, які да моманту скліканьня 1-е Раённае Канфэрэнцыі, г. ё. да 11 красавіка 1927 году, арганізаваў тры ячэйкі:

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1) Капыльская местачковая | ў складзе | 43 | чал. |
| 2) Цімкаўская | „ „ | 67 | „ |
| 3) У саўгасе „Рыме" | „ „ | 14 | „ |

Абраны Канфэрэнцыяй 11/IV 1927 г. Раённы Камітэт прыступіў да працы не адразу таму што адсутнічалі сродкі, ня было вопыту ў працы; апрача таго, сама ідэя арганізацыі Чырвонага Крыжу ў раёне была новая, невядомая.

На першы час працу праводзіць было вельмі цяжка, таксама дзеля таго, што ў склад Райкому былі абраны таварышы, займаўшыя адказныя пасады і ня меўшыя магчымасьці ўдзяліць дастатковае ўвагі працы Чырвонага Крыжу.

Сёлета Раённы К-т правёў адзін кружачны збор; прыняў удзел у вайсковых манэўрах, выдзяліўшы санітарны атрад у ліку 10 чал. з доктарам і фэльчарам, патраціўшы на санматар'ял 10 руб.

Пры канцы лета ад б. Слуцкага Акруговага Камітэту была атрымана датацыя ў суме 50 руб. на пабудову бятоннае студні ў вёс. *Васыльчыцы.* Райкамітэт у сувязі з гэтым правёў падрыхтоўчую працу; прыцягнуў да ўдзелу насельніцтва і выдаў на пабудову бятоннае студні 78 руб.; рэшту грошы—42 руб. дало само насельніцтва.

У восень праца Райкамітэту ў напрамку пашырэньня арганізацыі значна павялічылася; былі арганізаваны 2 Гурткі Першае Дапамогі ў ліку 38 чал.; адзін Гурток працу скончыў і 8 сакавіка адбыўся ўрачысты выпуск скончыўшых.

Да моманту другой Райканфэрэнцыі, г. ё. да 26 лютага 1928 году па раёну арганізавана 8 ячэек:

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1) Капыльская (пры Райкоме) | у складзе | 22 | чал. |
| 2) Саюзу Сав. Гандл. Служач. | „ „ | 27 | „ |
| 3) „ Мэдсанпрацы | „ „ | 24 | „ |
| 4) Ляшнянскае | . . . . . | 42 | „ |
| 5) Цішкаўскае местачковае | . . . | 58 | „ |

| | | |
|---|---|---|
| 6) Пры прыграчічным атрадзе . . | 154 | „ |
| 7) Пясоцкая . . . . . . | 25 | „ |
| 8) Рыменская . . . . . . | 13 | „ |
| Усяго . | 365 | чал. |

Гэткім чынам лік членаў Чырвонага Крыжу па раёну за 10 месяцаў павялічыўся амаль што на 200%.

Побач з гэтым, трэба адзначыць, што за апошні час устаноўлена сувязь з Райкомамі ЛКСМБ, Прафсаюзамі і Асо-Авіяхімам.

У сучасны момант Райкамітэт, ідучы насустрач жаданьням насельніцтва, асабліва жанчын, прымае захады да павялічэньня ліку Гурткоў Першае Дапамогі і да арганізацыі з восені 6-месячных Санітарных Курсаў.




Якой не павінна быць студня на вёсцы: Ячэйка—зьвярні ўвагу!

Член Прэзыдыуму Капыльскага Райкому *Ж. Брадайціс*

---

# Дасягненьні Чырвонага Крыжу ў Чэрыкаўшчыне

*(Магілеўшчына)*

Чэрыкаўскі Раённы Камітэт Чырвонага Крыжу быў перавыбраны ў лістападзе 1927 году. У гэты час па ўсяму раёну было сяброў Т-ва 334 чал., якія складалі 11 ячэек. Цяжкую спадчыну пакінуў стары Рай Камітэт у выглядзе вялікай залегласьці. Ідэі Т-ва былі мала папулярны.

Нанова абраны Райком стаў на той пункт гледжаньня, што не даволі мець сяброўскі білет, што ня можа быць ніякае творчае працы, пакуль члены Т-ва ня будуць сабе ясна ўяўляць мэты і задачы Т-ва.

Дзеля гэтага Райком арганізаваў з I/XI-27 г. па 1-е студзеня 1928 г. кампанію папулярызацыі ідэй Чырвонага Крыжу. За гэты час па ўсяму раёну было прачытана каля 50 лекцый - у горадзе, на вёсцы, па ўсіх ячэйках, сярод піанэраў, камсамольцаў і г. д.

З 1-га студзеня пачалі праводзіць кампанію па ўцягненьні сяброў. Кампанія дала бліскучыя вынікі. За гэта гаворыць цыфра ў 1078 чалавек на 1-ае красавіка, уцягнутых у шэрагі Т-ва, якія складаюць 32 ячэйкі па раёну. Гэта зьяўляецца вынікам гэраічнай працы некаторых працаўнікоў раёну. На жаль побач з гэтым ёсьць у нас частка мэд. працаўнікоў, якая зусім нядбайна адносіцца да працы Чырвонага Крыжу.

У галіне вайскова-санітарнае падрыхтоўкі таксама ёсьць дасягненьні. Да дню 8 сакавіка быў зроблены выпуск 38 асоб, якія даволі добра скончылі як тэорытычныя, так і практычныя курсы. У дзень 8 сакавіка паложаны пачатак існаваньня чарговага Гуртка на 40 чал. Апрача гэтага на раёне працуюць 2 Гурткі ў 70 чал. Ёсьць жаданьне арганізаваць на раёне яшчэ 2 Гурткі.

Санітарна-асьветная праца вядзецца ў шырокім разьмеры Усе ячэйкі забясьпечаны бібліатэкамі, плякатамі, у хатах-чытальнях ёсьць санітарна-асьветныя куткі. Чытаюцца лекцыі на вёсцы, у горадзе, сярод чырвонаармейцаў, вядзецца сан. гурток у Чэрыкаўскім праўдоме.

Санасьветная праца пусьціла глыбокія карэньні ў народныя масы. Вось які цікавы выпадак быў тут: у гарадзкой больніцы на прыёме адзін хворы селянін выявіў веды па прафілактыцы сваёй хваробы. На запытаньне зьдзіўленага доктара, адкуль ён ведае аб гэтым, селянін вынуў сяброўскі білет Чырвонага Крыжу, сан. брашуру і адказаў:—„гэта я атрымаў для чытаньня ад сваёй ячэйкі Чырвонага Крыжу“.

Ёсьць і консультацыя па ахове мацярынства і маленства.

Вось найбольш яскравыя дасягненьні нашай працы. Адмоўнымі момантамі зьяўляецца не даволі патрэбнае садзейнічаньне з боку некаторых арганізацый. Ня гледзячы на гэта можна напэўна сказаць, што Чырвоны Крыж заваяваў сабе аўтарытэт у Чарыкаўшчыне, ідэі яго глыбока ўкараніліся ў розумы працоўных мас.

Старшыня Райкому *Л. Розін*

# Як працавала Рудзенская ячэйка

*(Сьмілавіцкі раён, Менскае акругі)*

Праца Рудзенскай ячэйкі фактычна пачалася з кастрычніка 1927 г., г. зн. з моманту арганізацыі Гуртка Першае Дапамогі пры тутэйшым мэд. пункце. Да кастрычніка існаваньне ячэйкі выяўлялася толькі ў запісі сяброў, якія зьяўляліся для лячэньня ў зубгабінэт Чырвонага Крыжу. Такім чынам старых сяброў налічвалася 72 чал. з далёкіх пунктаў; у сучасны момант не вядомы нават і месцы жыхарства, гэтых сяброў. Значыцца і працы ніякай ня было.



Гурток Першай Дапамогі пры ЦРК (Віцебск).

З адчыненьнем Гуртка Першае Дапамогі арганізавалася і Бюро Рудзенскай ячэйкі, якім і распачата была праца на новых асновах: праведзена некалькі агульных сходаў з дакладамі аб мэтах і задачах Чырвонага Крыжу, з добраахвотным уцягненьнем у сябры Т-ва тутэйшага насельніцтва.

Цяперашняя арганізацыя Рудзенскай ячэйкі па свайму сацыяльнаму стану сяброў выяўляецца гэтак: 90% сялянства, 3% служачых і 7% асоб розных катэгорый. Што датычыць членаў Гуртка, якія праслухалі курсы першае дапамогі, дык яны ўсе адносяцца да першае групы, г. зн. да сялян.

За апошні час бюро ячэйкі прыняла плян працы на бліжэйшы пэрыяд: 1) утварыць санітарную тройку для надворнага санітарнага агляду двароў ва ўсіх вёсках раёну дзейнасьці ячэйкі з тым, каб вынікі абсьледваньня выявіць на агульных сходах грамадзян, з шырокім тлумачэньнем значэньня чыстасьці на вёсцы; 2) арганізаваць шэраг вечароў-

спэктакляў на вясеньні пэрыяд на карысьць Т-ва Чырвонага Крыжу; 3) знайсьці сродкі на пабудову лазьні пры пас. „Чырвоны“, Рудзенскага с/савету і 4) шырока правесьці прапаганду па ўсіх пунктах раёну дзеля ўцягненьня большай колькасьці насельніцтва ў сябры Т-ва. Для гэтай мэты прасіць Рай К-т і Акруговы К-т Чырвонага Крыжу аб прысылцы папулярнай літаратуры, інструкцый і г. д.

Практычная праца ячэйкі выявілася да цяперашняга часу, апрача заняткаў Гуртка і ўдзельнічаньні ў вайсковых тактычных занятках пры Рудзенскім атрадзе таксама і ў манэўрах. У гэтых раённых манэўрах Рудзенская ячэйка атрымала сваё першае баёвае храшчэньне: ня гледзячы на дрэннае надвор‘е, усе яе члены без папрокаў і выконваючы належныя правілы, прайшлі ў якасьці санітараў дзесяткі вёрст.

У сучасны момант плян працы, будзе выкананы таксама з посьпехам, ня гледзячы на тое, што ўмовы, пры якіх прыходзіцца пачынаць і разгортваць працу, далёка ня спрыяюць ячэйцы. Асноўным тормазам у працы зьяўляецца адсутнасьць сродкаў і кіруючых паказаньняў. Вось кароткі агляд дзейнасьці Рудзенскай ячэйкі Чырвонага Крыжу.

*М. Ламака, А. Чагоцкі*

---

## Добрыя адносіны

На апошняй нарадзе чырвона-крыжных ячэек Камаровіцкага мэдраёну былі прадстаўнікі 18 ячэек. Да ўмоўленай гадзіны прыбылі Старшыні з Сакратарамі, з якіх хто напісаў справаздачу, а хто вусна рабіў справаздачу аб працы сваёй ячэйкі. Усе ячэйкі наогул працуюць здавальняюча. Выдатную працу прарабілі санкамісіі ў наступных ячэйках: ячэйка № 4 вёска *Воўчые*, ячэйка № 5, вёска *Губеншчына*, ячэйка № 7, в. *Балванаўка*, ячэйка № 2, в. *Вудыга II-ая*, ячэйка № 14, в. *Пабеда* і в. *Цімахоўка*, ячэйка № 2, в. *Камаровічы*, асабліва ячэйка № 15 *Міляцін-Горкаўскага с/с*. Ва ўсіх гэтых ячэйках трывае сталая таварыская дысцыпліна, дзякуючы якой і праца ідзе добра.

1/III-1928 г. адбылося арганізацыйнае адчыненьне вайскова-санітарных курсаў на 40 асоб, якія пройдуць праграму гуртка Першае Дапамогі (36 гадзін). Заняткі праводзяцца пры мэдпункту, у хаце сан.-асьветы, дзе па сьцянох ёсьць малюнкі першае дапамогі, што служыць падсобным матар‘ялам дзеля заняткаў. Ёсьць вялікая патрэба ў літаратуры. Дужа патрэбны анатамічныя плякаты. Заняткі будуць 2 разы ў тыдзень па

3 і 2 гадзіны. Першыя заняткі ўжо адбыліся, на якія зьявіліся ўсе 40 слухачоў з 18 ячэек. Курсанты дужа цікавяцца сан. асьветай і з вялікаю ахвотаю слухаюць лекцыю-бяседу; пасьля бяседы я даю ім вусны конспэкт лекцыі, якія яны запісваюць. Дрэнна, што усе мае курсанты маюць адукацыю першай ступені і дзеля таго запісваюць марудна, ну, але нічога, было-б жаданьне вучыцца, тады яны і самі будуць больш культурнымі і дапамогуць аздаравіць сваю вёску.



Гурток Першай Дапамогі ў гор. Віцебску.

Камаровіцкай ячэйкай Чырвонага Крыжу рыхтуецца п'еса „Заклейменные позором“ Уценкава; гэтую п'есу думаю скарыстаць для пастаноўкі ў некалькіх ячэйках, якія раней прададуць білеты на тую суму, якая патрэбна кожнай ячэйцы,— 4 р. 50 к., з якіх 2 руб. на выпіску „Бюлетэня“ ЦК Чырвонага Крыжу і 2 р. 50 к. на пакупку 1/4 аблігацыі сялянскай пазыкі.

Кожны месяц ячэйкі павялічваюць свой лік новымі сябрамі. Так, напрыклад, па Камаровіцкаму мэдраёну за апошні месяц прыбыла 42 сябры Чырвонага Крыжу.

*Раханскі*

---

# Што зрабіў Пухавіцкі Раённы камітэт за паўтары гады свайго існаваньня

Наш раённы Камітэт Чырвонага Крыжу выбраны на агульным сходзе членаў у кастрычніку 1926 г. Да гэтага часу быў упаўнаважаны ў раёне ад акруговага камітэту,—загадчык больніцы доктар Шышэй, які даволі своеадменным спосабам навербаваў 100 чалавек членаў, ня выходзячы нават са свайго габінэту.

Уся працэдура была ў наступным. Калі ў больніцы на прыёме ў доктара Шышэя зьяўляліся хворыя, дык паміж імі адбывалася наступная сцэна:

„Даеш 50 капеек!"—казаў Шышэй.

Хворы ні слова не гаворучы, зусім ня ведаючы для чаго патрэбны гэтыя 50 капеек, выкладваў іх на стол прад ясныя вочы доктара.

„На, атрымлівай",—казаў затым Шышэй, і падаваў пацыенту членскі білет Чырвонага Крыжу. Зразумела, што аб мэтах і заданьнях арганізацыі ня было пры гэтым ні слова.

Пасьля выбараў Камітэту, гэты даволі „дзікі" спосаб вярбоўкі сяброў быў пакінуты, а большая ўвага была зьвернута на выхаваўчую працу: у грамадзкіх мясцох чыталіся даклады і пайшла праца па індывідуальнай падрыхтоўцы грамадзян. Гэткім чынам да сёняшняга дню налічваецца сяброў 338 чалавек, хоць сярод іх ёсьць ня мала так зв. „мёртвых душ",—пераважна навербаваныя выпадкова з другіх раёнаў.

Трэба сказаць, што Камітэт дзеля няўдалага складу дрэнна вядзе ўсё-ж такі работу па вярбоўцы членаў,—і ў бліжэйшай будучыне гэтую хібу трэба выправіць. Гэтага патрабуе нармальны рост арганізацыі Чырвонага Крыжу.

Значная праца была прароблена Раённым Камітэтам па разьдзелу 15 скрыняў з вопраткай, прысланых з Амэрыкі для пагарэльцаў нашага мястэчка. На гэта пайшло цэльных 5 тыдняў, але гэтая праца высока падняла аўторытэт Чырвонага Крыжу і шмат хто з грамадзян пачаў зьвяртацца да Камітэту з просьбамі і запытаньнямі, ці могуць яны атрымліваць з Амэрыкі грошы і рэчы ў адрас арганізацыі. Адказы даваліся станоўчыя, дадатныя.

Апрача таго Камітэт занова адбудаваў на базарным пляцу студню, патраціўшы на гэта 100 рублёў. Студня мае для мястэчка вялізнае значэньне, бо пад час пажараў толькі яна дае належны лік вады.

Дзеля далейшага ўдасканаленьня працы ў Камітэце патрэбна перш за ўсё цалкам асьвяжыць яго склад,—бо працы ў раёне, як са ўсяго відаць, непачаты край.

*Прыпадковы*

---

# Санітарны гурток пры Росмосдору

*(Магілеў)*

Пры Ўпраўленьні Росмосдору з'арганізаваўся ў жніўні 1927 г. Гурток Першай Дапамогі. У гурток залічылася 30 чал., пераважна жонкі служачых і ўсе акуратна наведвалі яго заняткі.

Першы час праца йшла ня надта жвава, але затым пачалі паволі цікавіцца, і праца пачала ажываць. Адзін з галоўных недахопаў—гэта адсутнасьць практычных заняткаў.

Праз некаторы час былі экзамены, на якіх прысутнічалі доктар-лектар, вайсковы доктар, прадстаўнік Акруговага К-ту Чырвонага Крыжу і прадстаўнік парт. ячэйкі.

Для асоб, якія ня вытрымалі экзамінаў, заняткі былі працягнуты яшчэ на 6 лекцыяў дзеля паўтарэньня курсу, пасьля чаго і яны таксама ўсе добра здалі іспыты. Каб замацаваць на будучыну нашыя веды, Акруговы Камітэт ішоў нам насустрач, вылучаючы нашых санітарак на практычныя заняткі ў лекавых установах.

Трэба спадзявацца, што Росмосдараўскія санітаркі выканаюць свой абавязак і на заклік рабоча-сялянскае ўлады прымуць чынны ўдзел у абароне краю.

*Асіноўская і Трускава*



Гурток Першай Дапамогі пры жанаддзеле ў Магілеве (1-шы выпуск).

# У Койданаўскім раёне

У 1926 г. па ініцыятыве доктара Фрыдлянда было ў нас арганізавана Т-ва Чырвонага Крыжу.

З пачатку заснаваньня да гэтага часу ў Т-ва ўступіла 292 члены, у большасьці сваёй сяляне.

Праўленьне Т-ва арганізавала 13 ячэек па вёсках. Гэтыя ячэйкі вядуць па вёсках не малую справу па ўкараненьню ў сялянскі быт мэдычна-санітарных навыкаў і з гэтага боку сябе зусім апраўдалі.

На сродкі ад паступленьня членскіх узносаў, а таксама і пры дапамозе Акруговага Камітэту Чырвонага Крыжу, у гэтым годзе было адрамантавана 2 студні з цамантовых кругоў у в. *Станькаве* і *Каверлянах*. У хуткім часе будзе пачата пабудова лазьні ў в. *Старынках*.

На сродкі Чырвонага Крыжу працуе ў раёне перасоўны Зубалячэбны Габінэт, праз які прайшло за год 1288 чалавек сялян, атрымаўшых дармова мэдычную дапамогу. Паслана 8 піанэраў найбольш бедных сялян у дом адпачынку на сродкі Т-ва Чырвонага Крыжу. Бяднейшым дзецям даецца адначасовая дапамога грашыма.

Раённы Камітэт Т-ва Чырвонага Крыжу на гэты год склаў свой каштарыс у 330 руб.

Праведзены ў раёне санітарныя курсы, на якіх атрымалі першапачатковыя веды аб санітарыі 15 жанчын і 11 мужчын.

Да недахопаў у працы Т-ва трэба аднесьці тое, што з боку маючагася ў раёне мэдычнага пэрсанала ў працы Бел. Т-ва Чырвонага Крыжу зусім малы ўдзел прымалі дактары мясцовай больніцы. Нездавальняючая была сувязь з мясцовымі ячэйкамі Асоавіяхіму і адсутнасьць дапамогі ў працы з боку мясцовых арганізацый.

Пры зьнішчэньні ўсіх гэтых недахопаў, Т-ва Чырвонага Крыжу бязумоўна стане на вёсцы барацьбітом і змагаром з вясковаю цемраю, забабонамі, шаптунамі і інш., якіх яшчэ на вёсцы ня мала.

*В. Сарока*

---

# Чырвоны Крыж у Халопенічах

У Халопеніцкім раёне Чырвоны Крыж пачаў працаваць са студзеня 1927 г.

23 лютага 1927 г. быў абраны Раённы Камітэт, які існуе і ў сучасны момант. За гэты час прыйшлося больш за ўсё зьвярнуць увагі на лекавую і сацыяльную дапамогу насель-

ніцтву, а таксама і на сан. будаўніцтва па раёну, бо Халопеніцкі раён зьяўляецца бедным і культурна адсталым.

Ня гледзячы на бедныя сродкі Раённага Камітэту, усё-ж такі выдана на лекавую і сацыяльную дапамогу насельніцтву каля 30 руб., а апрача гэтага асыгнавана 220 руб. на пабудову цэмантовых студняў на вёсцы. З гэтых сродкаў у пачатку вясны мы пачынаем будаваць цэмантовыя студні: адну ў вёсцы *Вузнацк* і адну ў вёсцы *Вайкавысках.* У гэтым-жа годзе Райкамітэт прыме ўдзел у пабудове лазьні ў м. *Халопенічах*, на якую можна будзе адпусьціць руб. 200-250

Працуе Гурток Першае Дапамогі, пры чым у хуткім часе будзе выпуск яго слухачоў.

У Халопеніцкім раёне ёсьць 3 ячэйкі Чырвонага Крыжу і 4 Упаўнаважаных.

Агульны лік сяброў на 1 студзеня 28 г.—179 чал., з якіх:

| | Мужч. | Жанч. |
|---|---|---|
| Рабочых . . . . | 5 | 2 |
| Служачых . . . . | 44 | 18 |
| Сялян . . . . . | 38 | 16 |
| Вучняў . . . . . | 39 | 17 |

**Па партыйнасьці:**

| | Мужч. | Жанч. |
|---|---|---|
| Сяброў ці кандыдатаў КПБ | 14 | 2 |
| „ „ „ ЛКСМБ | 6 | 5 |
| Беспартыйных . . . . . | 97 | 42 |
| Піанэраў . . . . . . . | 13 чал. | |

**Па саюзам**

| | |
|---|---|
| Саюз МСП . . . . | 12 чал. |
| „ Сав. Ганд. Служ. | 34 „ |
| „ С.-Х. і Л. прац. | 11 „ |
| „ Асьветнікаў . . | 7 „ |
| Не сяброў Саюзу . . | 115 „ |

О 19 лютага 1928 г. у Халопеніцкім Нардоме адбылося ўрачыстае пасяджэньне Халопеніцкага Райкамітэту Чырвонага Крыжу сумесна з прадстаўнікамі ад савецкіх, партыйных, прафэсыянальных і іншых арганізацый, у сувязі з выпускам Гуртка Першае Дапамогі.

Гурток спачатку меў 25 чал. слухачоў, а экзамін вытрымалі 17 чал. З прывітаньнем выступалі прадстаўнікі ад усіх установ. Тым, якія найлепш прайшлі курс, былі разданы пада-

рункі. Усе былі вельмі зацікаўлены. Пасьля кожнага прывітаньня і раздачы падарункаў на сходзе іграў духавы аркестр. У хуткім часе будзе арганізаваны другі Гурток Першай Дапамогі.

Сакратар Халопеніцкага Райкамітэту
Чырвонага Крыжу *Майсюкевіч*

---

## Ячэйка Чырвонага Крыжу пры Магілеўскім Акр. Зем. Аддзеле

Ячэйка Акр. Зем. Аддзелу ў цяперашні час налічвае больш 50 сяброў. Запіс у сябры працягваецца. Пасьля перавыбарчай кампаніі праведзена першае пасяджэньне нанова абранага бюро ячэйкі, на якім разьмяркованы паміж сябрамі бюро абавязкі і зацьверджаны плян працы.



Гурток Першай Дапамогі заводаў „Двигатель Революции" і Арцелі мэталістых (Гомель)

Пры ячэйцы арганізаваны Гурток Першай Дапамогі, у які запісалася 30 асоб, галоўным чынам жонак служачых Акр. Зем. Аддзелу. Гурток распачаў сваю працу 30 сакавіка. У гэты дзень д-р Пальчык прачытаў лекцыю на тэму: „З чаго складаецца чалавечы шкілет".

Лекцыя, дзякуючы яскравасьці выкладаньня, зрабіла на слухачоў добрае ўражаньне. Пажадана каб д-р Пальчык і ў далейшым чытаў нашаму гуртку лекцыі.

*Дамарацкі*

---

# Нашыя задачы

Перавыбарчая кампанія выкрыла шмат недахопаў, як у працы ячэек Чырвонага Крыжу, так і ў працы Магілеўскага Акруговага Камітэту. Ня будзем спрачацца, хто ў гэтым вінаваты, лепш падумаем над тымі вывадамі, якія можна зрабіць.

Арганізацыйную частку трэба лічыць яшчэ не аканчальна закончанай; часам нават кіраўнічы склад некаторых ячэек ня зусім дакладна ўяўляе сабе чарговае разьвіцьцё працы. Нашаму Зьезду прыдзецца грунтоўна прагледзіць формы і зьмест дзейнасьці як ячэек, так і Акруговага Камітэту.

А як стаіць пытаньне з санітарнай падрыхтоўкай насельніцтва? Ці не занадта мала мы зрабілі ў гэтым напрамку?

Калі нашая вёска ўжо схамянулася, калі ў ёй зьяўляюцца культурныя расткі, калі з яе пачынае выпінаць грамадзкасьць, дык магутную ролю ў гэтым адыграла нашая Чырвоная Армія, у якой кожны чырвонаармеец праходзіць пад час службы культурную школу і пасьля дэмабілізацыі пераносіць яе на вёску.

Трэба згадзіцца, што гэтую менавіта акалічнасьць наш Акруговы Камітэт выкарыстаў вельмі слаба. Гэта між іншым таксама адно з заданьняў, якое павінен вырашыць Усебеларускі Зьезд Чырвонага Крыжу.

(Ячэйка Вайсковага Шпіталю ў Магілеве).

*Фіскін*

---

# Галасы сялян

## Усе ў т-ва Чырвонага Крыжу

11-га лютага гэтага году ў нашу вёску *„Чаплічы“* заехаў з Слуцку доктар, які чытаў лекцыю аб становішчы здароўя сялян і наогул. Адначасова паказваў на прыкладзе малюнкамі валшэбнага фанара. Разам з гэтым зрабіў даклад аб Чырвоным Крыжу, яго значэньні і яго задачах. Сяляне зразумеўшы гэтае, усе радасна адгукнуліся і ўступілі ў Т-ва Чырвонага Крыжу.

*Мікола Вяршэня*, селянін в. Чаплічы,
Чырвона-Слабодзкага р. на Случчыне.

---

# Актыўнасьць расьце

Аднаго разу сабраліся сяляне ў хату-чытальню. Гэта было якраз на першы дзень каляд у суботу. Разгаварыліся сяляне вёскі *„Старына“* аб пабудове лазьні, ды новай студні. Гэта пачуўшы з другой хаты Кірык выходзіць да сялян і кажа „ад, добра-б было папарыцца ды венічкам ля плячэй“. Сідар ня злосна крыкнуў -сяляне, гэта ўсё, каб пабудаваць, трэба з'арганізаванасьць“. Усе закрычалі, ну дык чаго-ж, давай з'арганізуемся. Слухайце сяляне, мы давайце запішамся ўсе ў арганізацыю „Чырвоны Крыж“. Ён нам і дапаможа. Сьціхні там Апанас з сваім Крыжам, паможа твой Крыж, як кашаль хваробе. Ня злуй там Кірык на Крыж, бо ён і сапраўды дапаможа, гэта-ж нашы шэфы кіруюць гэтым крыжам, дык яны нам і дапамогуць. Кажа Сідар—„ну дык чаго-ж, запісуймася“. Ну, хто, я буду запісваць, кажа Міхась. Пішы мяне Сідара Шатэрніка. А хто больш. І мяне пішы Хвадзея Куліка. Ну, а ты, Пракоп, чаму ня пішaсься ў арганізацыю Чырвонага Крыжу. А што ён мне паможа. Некаторыя закрычалі: „Студню новую пабудуе на дварэ“. А калі студню, дык пішы і мяне. Юрка, а чаму ты ня запісваешся, не братка, грошай няма ні капейкі. Ай чалавек, ты яйцо ў бабы ўкрадзеш, дык і будзе на два месяцы ўзносу. Той ціханька зьхіліўся і ні слова. Ну мужчыны, ужо запісалася 25 чалавек. А я напішу пісьмо ў Менскі Чырвоны Крыж і нам прышлюць білетаў і інструкцыю.

Рабкор в. *Старыны*



Сялянскія ячэйкі! Арганізуйце зьбіраньне лекавых расьлін

## Бюджэт Беларускага Таварыства

ПРЫБЫТАК

| Назва стацей | Бюджэт на 1927/1928 год | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Цэнтральны | | Мясцовы | | Беларускі | |
| | Сума | %% | Сума | %% | Сума | %% |
| Сябр. узносы | — | — | 16484 | 23,6 | 16484 | 6,6 |
| Уступ. узносы | — | — | 2329 | 3,3 | 2329 | 0,9 |
| Афяраваньні | — | — | 15850 | 22,7 | 15850 | 6,3 |
| Ад прадпр. | 1000 | 0,6 | 17690 | 25,3 | 18690 | 7,4 |
| „ тэатраў | 58000 | 32 | — | — | 58000 | 23,1 |
| „ пашпартоў | 7000 | 3,8 | — | — | 7000 | 2,8 |
| „ транспарту | 33000 | 18,2 | — | — | 33000 | 13,1 |
| „ паг. ссуд | 3400 | 1,9 | — | — | 3400 | 1,3 |
| Пост. ст. бедст. | 4000 | 2,2 | — | — | 4000 | 1,6 |
| Розн. паступл. | 5000 | 2,8 | 15000 | 21,5 | 20000 | 8 |
| Па Б. С. К. | — | — | 2500 | 3,6 | 2500 | 1 |
| | 111400 | — | 79853 | — | 181253 | — |
| Запаз. выканк. | 8500 | 4,7 | — | — | 8500 | 3,4 |
| Датац. выканк. | 46427 | 25,5 | — | — | 46427 | 18,5 |
| Дэфіцыт | 15000 | 8,3 | — | — | 15000 | 6,0 |
| | 181328 | 100 | 69853 | 100 | 251180 | 100 |
| Датац. ад ЦК | — | — | 24162 | — | — | — |
| | 181327 | — | 94015 | — | — | — |

## Агульная сводка бюджэту Бела

| Назва стацей | Бюджэт на 1927/1928 год | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Цэнтральны | | Мясцовы | | Беларускі | |
| | Сума | %% | Сума | %% | Сума | %% |
| Сябр. узносы | — | — | 18813 | 26,9 | 18813 | 7,5 |
| Рэгаліі | 98000 | 54 | — | — | 98000 | 39 |
| Ад прадпр. | 1000 | 0,6 | 17690 | 25,3 | 18690 | 7,4 |
| Розн. паступ. | 12400 | 6,9 | 33350 | 49,8 | 45750 | 18,2 |
| Аст. сум м/г. за выканком. | 8500 | 4,7 | — | — | 8500 | 3,4 |
| З распр. фонду выканк. | 46427 | 25,5 | — | — | 46427 | 18.5 |
| Дэфіцыт | 15000 | 8,3 | — | — | 15000 | 6 |
| | 181327 | 100 | 69853 | 100 | 251184 | 100 |

Старшыня ЦК Бел. Чырв. Крыжу *М. Барсукоў*

Зацьверджаны IV Пленумам ЦК
13—15 студзеня 1928 г.

**Чырвонага Крыжу на 1927-28 год**

ВЫДАТАК

| Назва стацей | Бюджэт на 1927/1928 год | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Цэнтральны | | Мясцовы | | Беларускі | |
| | Сума | %% | Сума | %% | Сума | %% |
| Утр. ляч. уст. . | 2250 | 1,2 | 21040 | 22,4 | 23290 | 9,3 |
| Сан. будаўн. . . | 500 | 0,3 | 16000 | 17 | 16500 | 6,6 |
| Фонд Райаддз. . | — | — | 10000 | 10,6 | 10000 | 4 |
| В. С. падрыхт. . | 33000 | 18,2 | 13500 | 14,4 | 46500 | 18,4 |
| Дап. Зах. Бел. . | 6000 | 3,3 | — | — | 6000 | 2,4 |
| Піонэр. фонд . . | — | — | 5540 | 5,9 | 5540 | 2,2 |
| Выдавецтва . . | 5250 | 2,9 | — | — | 5250 | 2,1 |
| Нав. ліха . . . | 5000 | 2,8 | — | — | 5000 | 2 |
| Індывід. дапамога. | 3000 | 1,7 | — | — | 3000 | 1,2 |
| Доўгатэр. ссуды . | 8300 | 4,6 | 3400 | 3,6 | 11700 | 4,7 |
| Ст. залегласьць . | 20560 | 11,3 | — | — | 20560 | 8,2 |
| Утр. апарата . . | 9020 | 5 | 10205 | 10,8 | 19225 | 7,6 |
| Арг. выдаткі . . | 5450 | 3 | 7330 | 7,8 | 12780 | 5,1 |
| В. С. фонд . . | 57225 | 31,6 | 3000 | 3,2 | 60225 | 24 |
| Рэз. фонд . . . | 1610 | 0,9 | — | — | 1610 | 0,6 |
| Ясьлі . . . | — | — | 4000 | 4,3 | 4000 | 1,6 |
| | 157165 | — | 94015 | — | 251180 | 100 |
| Дат. мясц. бюдж.. | 24162 | 13,2 | — | — | — | — |
| | 181327 | 100 | 94015 | 100 | — | — |

**рускага Т-ва Чырвонага Крыжу**

| Назва стацей | Бюджэт на 1927/1928 год | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Цэнтральны | | Мясцовы | | Беларускі | |
| | Сума | %% | Сума | %% | Сума | %% |
| Ляч. мэд. і грам, праца . . . | 16750 | 9,3 | 56580 | 60,2 | 73330 | 29,2 |
| В. С. праца . . | 33000 | 18,2 | 13500 | 14,4 | 46500 | 18,4 |
| Выдавецтва . . | 5250 | 2,9 | — | — | 5250 | 2,2 |
| Утр. апарата . | 9020 | 5 | 10205 | 10,8 | 19225 | 7,6 |
| Арган. выдаткі . | 5450 | 3 | 7330 | 7,8 | 12780 | 5,1 |
| Стар. залегл. . . | 20560 | 11,3 | — | — | 20560 | 8,2 |
| Доўгатэрм. ссуды. | 8300 | 4,6 | 3400 | 3,6 | 11700 | 4,7 |
| Фонды . . . | 58835 | 32,5 | 3000 | 3,2 | 61835 | 24,6 |
| | 157165 | — | 94015 | 100 | 251180 | 100 |

Заг. Фін. адм. часткі ЦК *Асятроў*

## Грашовая справаздача Беларускага Таварыства Чырвонага Крыжу за 1926-27 г.

### Прыбыткі

| №№ п/п | Назва стацей | Папярэдні каштарыс 1926-27 г. | | Выканана за 1926-27 г. | | | | | %% да сумы | %% да каштар. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | У 1 рэдакцыі | У 2 рэдакцыі з дапаўн. | Цэнтральны | %% | Мясцовы | %% | Усебеларускі | | |
| 1 | Сябр. узносы | 9965-50 | 14603-50 | — | — | 4403-04 | 5,3 | 4403-04 | 2,8 | 30,2 |
| 2 | Уступн. плата | 1938 | — | — | — | 233-48 | 0,3 | 233-48 | 0,2 | — |
| 3 | Ад прыб. устан. | 28583-39 | 17359-24 | — | — | 14453-55 | 17,7 | 14453-55 | 9,1 | 83,3 |
| 4 | Дзярж. рэг. тэат. | 45000 | 51000 | 49173-84 | 40,7 | — | — | 49173-84 | 30,7 | 96,4 |
| 5 | " " пашп. | 14844 | 16840 | 4292-82 | 3,5 | — | — | 4292-82 | 2,7 | 25,5 |
| 6 | " " трансп. | 18000 | 18000 | 28378-81 | 23,5 | — | — | 28378-81 | 17,7 | 158 |
| 7 | Ад фонду Выканкому | 5000 | 5000 | 18818-12 | 15,6 | — | — | 18818-12 | 11,7 | 376 |
| 8 | Розн. атрыман. | 7093-05 | 7523-05 | 5168-63 | 4,3 | 3374-21 | — | 8542-84 | 5,4 | 113 |
| 9 | Экспл. маемасьці | 2071 | 4684 | 2824-53 | 2,3 | — | — | 2824-53 | 1,7 | 61 |
| 10 | Афяраваньні | 4790 | 5290 | — | — | 13109-49 | 15,8 | 13109-49 | 8,2 | 248 |
| | Разам на 1/X | 137284-94 | 140299-79 | 108656-75 | 89,9 | 35573-77 | — | 144230-62 | 90,1 | 102,9 |
| 11 | Паступл. ад УЧХ і РОКК | 10400 | 10400 | 3683-13 | 3,1 | — | — | 3683-13 | 2,3 | 35 |
| | Рэшта | 5233-26 | 7186-24 | 7186-24 | 5,9 | 4929-97 | — | 12116-21 | 7,6 | 169 |
| | | 152918-20 | 157886-03 | 119526-12 | 98,9 | 40503-74 | — | 160029-86 | 100 | 101,4 |
| | Дэфіцыт | — | — | 1450-63 | 1,1 | — | — | — | — | — |
| | Датацыя мясцовага бюджэту | — | — | — | — | 39662-82 | — | — | — | — |
| | | 152918-20 | 157886-03 | 120976-75 | 100 | 80166-56 | — | 160029-86 | — | 101,4 |

## Выдаткі

| № № п/п | Назва стацей | Папярэдні каштарыс 1926/27 г. | | Выканана за 1926/27 г. | | | | | % % да сумы | % % да каштар. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | У 1 рэдакцыі | У 2 рэдакцыі з дапаўн. | Цэнтральны | % % | Мясцовы | % % | Усебеларускі | | |
| 1 | Утр. мэд. лек. устан. і ясьляў . | 14784 | 29692-95 | 6907-13 | 5,7 | 37058-02 | — | 43965-15 | 27,5 | 148 |
| 2 | Фонд сан. будаўн. . . . | 8300 | 7150 | 1300 | 1,1 | 2557-85 | — | 3857-85 | 2,4 | 54 |
| 3 | „ Район. Аддз . . . | 5050 | 5240 | — | — | 1365-40 | — | 1365-40 | 0,8 | 26 |
| 4 | В. С. падрыхт. . . . . | 5300 | 4950 | — | — | 3997-52 | — | 3997-52 | 2,5 | 80,8 |
| 5 | Дап. дзец. Зах. Бел. . . . | 10000 | 5500 | 5295-72 | — | — | — | 5295-72 | 3,3 | 96,3 |
| 6 | Піан. фонд і фізк. . . . | 4675 | 6554-86 | 930 | — | 5385-37 | — | 6315-37 | 4 | 96,4 |
| 7 | Выдавецтва . . . . . | 5800 | 4000 | 3424-23 | 2,8 | — | — | 3424-23 | 2,1 | 85,6 |
| 8 | Навальн. ліха . . . . | — | 3500 | 2466-75 | 2 | 300 | — | 2766-75 | 1,7 | 79 |
| 9 | Дапам. часовая . . . . | 4330 | 4230 | 2559-90 | 2,9 | 4286-26 | — | 6846-16 | 4,3 | 161 |
| 10 | Тэрмін пазыкі . . . . | 8700 | 16592-55 | 16592-55 | 13,7 | — | — | 16592-55 | 10,3 | 100 |
| 11 | Стар. залегласьць . . . . | 17080 | 11490-72 | 16773-66 | 13,9 | 159-79 | 0,2 | 16933-45 | 10,6 | 148 |
| 12 | Утрым. апарату . . . . | 25137-50 | 24792-84 | 8984-84 | 7,4 | 16176-83 | 20,5 | 25161-67 | 15,7 | 101.5 |
| 13 | Адм.-гасп. выдаткі . . . | 15248-70 | 4500 | 3212-77 | 2,6 | 591-84 | — | 3804-61 | 2,4 | — |
| 14 | Арган. выдаткі . . . . | — | 9600-96 | 2166-05 | 1,8 | 4290-39 | — | 6456-44 | 4 | 70 |
| 15 | Разэр. фонд . . . . . | 7000 | — | — | — | — | — | — | — | — |
| 16 | В. С. фонд . . . . . | 12000 | 6000 | 6000 | — | 1803 | — | 7803 | 4.9 | 130 |
| 17 | Фонд сан -вывуч. Бел. . . . | 1800 | — | 495-49 | 0,4 | — | — | 495-49 | 0.3 | — |
| 18 | „ Сав. Сац. Дап. . . . | 7713 | 6623 | — | — | 916-78 | — | 916-78 | 0.6 | 14 |
| 19 | Экспл. маемасьці . . . . | — | 2615 | 4204-84 | 3,5 | — | — | 4204-84 | 2.6 | 161 |
| | | 152918-20 | 156700-88 | 181313-93 | 67,2 | 78889-05 | — | 160202-98 | 100 | 102,2 |
| | Датацыя мясц. бюд. . . . | 12992-26 | 29602-89 | 39662-82 | 32,8 | — | — | — | — | — |
| | Астрача прыбыткаў . . . | — | — | — | — | 1277-51 | — | — | — | — |
| | | — | — | 120976-75 | — | 80166-56 | — | 160202-98 | — | — |

Старшыня ЦК *М. Барсукоў* Заг. Граш. Адм. Часткі ЦК *І. Асятроў.*

# ХРОНІКА

## У Цэнтральным Камітэце

О З пачаткам бягучага году ЦК выпрацаваў проэкт інструкцыі па зборам на карысьць Чырвонага Крыжу. Інструкцыя ўдасканальвае парадак збору з відовішчаў, увесяленьняў і розных грашовых гульняў (лёто, карты і інш.) Прад Народным Камісарыятам Фінансаў узьнята пытаньне аб хутчэйшым зацьвярджэньні азначанай інструкцыі.

О У студзені месяцы б. г. ЦК прыняў „Палажэньне аб гуртках Першае Дапамогі“. Згодна палажэньню гурткі арганізоўваюцца нізавымі ячэйкамі Бел. Т-ва Чырвонага Крыжу па прадпрыемствах, клюбах, жактах і па вёсках, дзе ёсьць мэдычна падрыхтаваны кіраўнік. Мэты гурткоў—масавая санітарная прапаганда і падрыхтоўка працоўных, у першую чаргу жанчын, першая мэдычная дапамога ў няшчасных выпадках пры стыхійных закалотах і пад час вайны.

Няпісьменныя ў члены Гурткоў ня прымаюцца. На чале Гуртка стаіць Старастат з 3-х асоб, які праводзіць усю арганізацыйна-гаспадарчую работу. Лік сяброў Гуртка не павінен перавышаць 40 чалавек. Пад час выкананьня сваіх абавязкаў члены Гуртка маюць належныя знакі—нарукаўная белая павязка з чырвоным крыжам пасярэдзіне. Скончыўшым Гурткі выдаюцца спэцыяльныя пасьведчаньні.

О На аснове пастановы ЦК Саюзу Мэдсанпрацы (пісьмо ад 20-II—28 г. № 5656(5806 236) 1-9) сёстры, скончыўшыя каротка-тэрміновыя курсы, карыстаюцца правам працы ў якасьці мэдычнай сястры, толькі ў умовах вайсковага часу. У мірны час яны могуць працаваць у якасьці санітарак, нянь і на іншых падсобных пасадах.

О У адзначэньне 10-годзьдзя Чырвонай Арміі, ЦК заарандаваў адно ложка для хворых на костны тубэркулёз членаў сямей Камначскладу Чырвонае Арміі ў санаторыі „Чарніцы“ (Віцебская Акруга). У бягучым годзе на гэтую мэту асыгнавана 500 руб. з рэзэрвнага фонду Белар. Чырв. Крыжу.

О Нарада па барацьбе з жабрацтвам пры Нар. Кам Сац. Забясьпекі прызнала неабходным правесьці „Месячнік“ на гэтую мэту. Апрача таго ўзьнімаецца пытаньне аб узмацненьні Гарадзкіх Камітэтаў узаемадапамогі ў сэнсе арганізацыі ўтільзбору (шматаў, касьцей і інш.).

О ЦК зрабіў умову з Белмэдгандлем аб тым, каб апошні да 15 красавіка б. г. падрыхтаваў усе патрэбнае абсталяваньне для Гурткоў Першае Дапамогі.

О Для патрэб Гурткоў Першае Дапамогі ЦК закупіў у сакавіку месяцы ў Маскве і Ленінградзе адпаведнай літаратуры на суму да 2500 руб.

О ЦК прызнаў патрэбным прыступіць да арганізацыі эксплёатацыі бялізны ў спальных вагонах па чыгунках БССР. Дарожнаму Камітэту Чырвонага Крыжу пры Упраўленьні Заходніх чыгунак у Гомелі даручана па гэтаму пытаньню ўвайсьці ў паразуменьне з Упраўленьнем Чыгункі і апрацаваць плян работы, карыста-

ючы той вопыт, які мае ў гэтай справе Украінскі Чырвоны Крыж на транспарце.

○ На аснове прынцыпаў. прынятых Выканаўчым Камітэтам Чырвоных Крыжоў і Паўмесяцаў і Цэнтральным Саветам Асо-Авіахім, ЦК Бел. Чырвонага Крыжу апрацаваў „Палажэньне аб узаемаадносінах Т-ва з Бел. Асо-Авіахімам". Згодна Палажэньня,якое зацьверджана абедзьвюма старанамі, арганізацыя Гурткоў Першай Дапамогі, як і наогул санітарная падрыхтоўка насельніцтва ў БССР, належыць выключна Беларускаму т-ву Чырвонага Крыжу, а ёсьць камітэты Асо-авіахіму, апошнія могуць арганізоўваць санітарныя гурткі, з тым аднак, каб з моманту ўзьнікненьня Чырвонакрыжнай ячэйкі, перадаваць ёй гэтую справу.

○ ЦК у пасяджэньні 9 сакавіка пастанавіў прыступіць да арганізацыі ў Менску Зубной Поліклінікі. Згодна пляну азначана Поліклініка ўвязвае сваю дзейнасьць з катэдрай Стаматолёгіі Бел. Дзярж. Унівэрсытэту і ў бліжэйшым будучым павінна быць рэарганізавана ў Одантолёгічны Інстытут.

БДУ ідзе на сустрач паднятай ініцыятыве і з свайго боку ўкладвае ў арганізацыю поліклінікі ў бягучым годзе 2000 р. Поліклініка адкрывае сваю чыннасьць з 15 красавіка бяг. году на Рэвалюцыйнай вул: № 20.

○ У Смаленску выходзіць „Зборнік матар'ялаў па вайсковай гігіене" на расейскай мове. Шосты зборнік складаецца з матар'ялаў падыходзячых для Гурткоў Першае Дапамогі падвышанага тыпу.

○ 30 красавіка праз Негарэлае-Менск праехалі 22 дзяцей баўгарскіх рэвалюцыянэраў работнікаў і сялян. Дзеці накіроўваюцца МОПР'ам у Крым для лячэньня. Прадстаўнікі ЦК Бел. Чырв. Крыжу сустрэлі дзяцей пры граніцы, наладзілі ім харчаваньне і падаравалі на далёкую падарожу аптэчкі са ўсім патрэбным.

○ 27-29 красавіка ў Харкаве адбыўся пленум ЦК Украінскага Чырвонага Крыжу, які быў прысьвечаны 10-ці гадзьдзю УЧХ. На пленум для прывітаньня і вырашэньня вашнейшых пытаньняў працы Бел. Чарв. Крыжу выяжджаў член ЦК апошняга тав. Казюра.

## ЗАМЕЖНАЯ ХРОНІКА

**Сьмерць Старшыні Міжнароднага Камітэту**

31 сакавіка г-г. у Жэнэве, на 83 годзе жыцьця памёр Густаў АДОР —Старшыня Міжнароднага К-ту Чырвонага Крыжу.

На гэтым пасту Г. АДОР знаходзіўся з 1910 году і іграў вельмі выдатную волю ў палітычным жыцьці Швайцарыі. Пад час сусьветнае вайны ён прымаў старану Антанты і ўвесь час да самае сьмерці ставіўся няпрыхільна да Савецкага Саюзу. У асобе Г. Адора з Эўрапэйскай сцэны зышоў буйны палітычны і грамадзкі дзеяч.

**Арганізацыя Самарыцян і Чырвоны Крыж** (Весьнік Аўстрыйскага Чырвонага Крыжу, Сакавік-Красавік 1928 г.)

Гісторыя Самарыцянскіх арганізацый сягае ў далёкае мінулае,— у сівое сярэднявечча. З пачатку гэта была дапамога, якую аказвалі манастыры пільгрымам над час іх падарожы да „сьв гроба" і давалі ім прытулак. Пад час крыжовых паходаў „брацтвы сьв. Яна" клапаціліся аб хворых і ранных. Гэтыя брацтвы, а пасьля капітул, і былі першай формай сучасных Самарыцянскіх арганізацыяў. У эпоху „Адраджэньня" дзякуючы мэдыцынскае навукі, гэтая дабрачынная дзейнасьць разьвівалася яшчэ больш і прывяла да заснаваньня ў 1767 годзе ў Амстэрдаме першага „Таварыства паратунку на вадзе".

Сучасная арганізацыя Самарыцян уваходзяць большай часткай у Таварыствы Чырвонага Крыжу, або працуюць разам з ім. У некаторых краінах яны аднак зусім самастойны.

Самымі вялікімі і дрэўнімі па пахаджэньні зьяўляюцца арганізацыі Самарыцян у Англіі і ў Паўн. Амэрык. Зл. Штатах.

У Англіі ў галіне Самарыцянскае дзейнасьці працуе Брытанскі Чырвоны Крыж і Асоцыяцыя імя сьв. Джона. Абедзьве арганізацыі працуюць самастойна.

Чырвоны Крыж арганізуе: а)Курсы Першае Дапамогі, асобна для мужчын і жанчын, старэйшых за 17 лет; б) Курсы дагляду за хворымі; в) Курсы дагляду за груднымі дзяцьмі. Асобы, якія скончылі гэтыя курсы і атрымалі дыплём, ствараюць санітарныя калёны і так зв. „Атрады Чырвонага Крыжу і дабраахвотнае дапамогі". У кожную калёну ўваходзіць ня болей як 8 чал. У мірны час гэтая калёна прызываецца на курсы паўтарэньня і для плянавых упражненьняў. Пад час вайны гэтыя калёны ствараюць рэзэрв санітараў. У даны момант у Англіі ёсьць 2.530 калён з 68 523 членамі.

„Асоцыяцыя сьв. Джона" таксама рыхтуе курсы Першае Дапамогі і г. д. і мае спэцыяльную санітарную „брыгаду", якая выклікаецца ў момант патрэбы для аказаньня хуткай дапамогі. У канцы 1924 г. было 929 мужчынскіх перасоўных атрадаў з 30.365 членамі і 456 пунктаў дапамогі з 10.669 членамі-жанчынамі. Брыгада мае 60 складаў санітарных матар'ялаў.

У Амэрыканскіх Паўночных Штатах Самарыцянскай дзейнасьцю займаецца Чырвоны Крыж, які рыхтуе адпаведныя курсы. Кожны курс складаецца з 10 лекцыяў. Яны ўведзены ў 1910 г. і з таго часу іх прайшло некалькі тысячаў чалавек. Чырвоны Крыж Моладзі арганізуе падобныя курсы для дзяцей і падлеткаў. З 1913 г. Амэрыканскі Чырвоны Крыж мае ў сваім распараджэньні Санітарныя Камісіі, якія складаюцца з 3 афіцэраў і 58 членаў. Кожны год гэтыя калёны прызываюцца на адзін тыдзень для палявых упражненьняў. У мірны час калёны дапамагаюць у стыхійных няшчасьцях.

У Нямеччыне гэтай справай побач з Чырвоным Крыжам займаюцца і іншыя арганізацыі, у тым ліку дзяржаўныя, якія вельмі добра пастаўлены. Па апошніх данных санітарных калён у Нямеччыне ёсьць 2400 з 100.000 членаў. Паратуначныя станцыі і пункты к 31 сакавіку 1927 г. абслугоўваліся 12.407 асобамі. У Нямеччыне таксама ёсьць каля 30 вялікіх і да 3 000 маленькіх складаў патрэбнага санітарнага матар'ялу.

Падобныя-ж арганізацыі толькі ў меншым памеры існуюць і ў іншых дзяржавах—Даніі, Швэцыі, Швайцарыі, Італіі, Чэха-Славакіі і Японіі.

---

# СПРАВАЗДАЧА

**Па вечару на карысьць дзяцей бяднейшых рабочых і сялян Заходняй Беларусі, які адбыўся 23-га студзеня 1928 г.**

| ПРЫБЫТАК | | ВЫДАТАК | |
|---|---|---|---|
| 1) Ад продажу білетаў . | 1002 руб. | 1) Плата рабочым кіно „Культуры" і рабочым БДТ 2. | 60 р. 27 к. |
| 2) Лётарэя-алегры (чысты прыбытак) . . | 111 р. 04 к. | 2) Асьвятленьне, апал і прыбіраньне памяшканьня і сцэны. | 78 р. — |
| 3) Буфэт, вешалка і афяраваньні . . . | 61 р. 78 к. | 3) Хор, аркестр, кіоскі і збор драм. пісьмен . | 169 р. 60 к. |
| | | 4) Афішы, расклейка іх, абвестка ў газэце і дробн. выдаткі . . | 88 р. 49 к. |
| | 1174 р. 82 к. | | 396 р. 36 к. |

Чысты прыбытак ад вечару 778 руб. 46 кап.

ЦК Чырвонага Крыжу прыносіць шчырую падзяку наступным асобам і ўстановам, якія сваім бясплатным удзелам дапамаглі матар'яльнаму посьпеху вечара:

Пісьменьнікам *Я. Купале, Я. Коласу, Ц. Гартнаму.*

Конфэрансье—*Ю. Дрэйзіну* і ўсёй мастацкай Радзе вечару.

*А. Таубэ* і ўсёй Гаспадарчай радзе вечару.

Дырэктару Муз. Тэхнікуму—*Бясьсьмертнаму*, піяністаму *Пятрову*, сьпявачцы *Александроўскай*, цымбалістаму *Навіцкаму* і кіраўніку хору *Ягораву.*

Рэдакцыям газэт: „Савецкая Беларусь" і „Зьвязда"— шчырая падзяка за бясплатныя абвесткі аб вечары і адміністрацыі кіно „Культура" за бесплатнае памяшканьне.

Чысты прыбытак ад вечару ў суме 778 руб. 46 кап. перасланы ў Вільню—Беларускаму Камітэту дапамогі ахвярам вайны, на імя скарбніка К-ту Міхайлы Петкевіча (кв. Беларускае Канторы Дзяржбанку № 2742/3974).

Нам. Старшыні ЦК *Цьвікевіч*

Заг. Граш. Адм. Часткі ЦК *Асятроў*

---

## Адказы і пытаньні

*Дыяшчэні Юсьціну Аляксандравічу* (в. Калюга, Макавецкага С/С., Бабруйскай акругі).

Ліст Ваш атрымалі. Адказ Вам павінен быў даць Бабруйскі Акруговы Камітэт.

*Семашка М.* (с. Навасёлкі, п/адз. Мар'іна Горка).

Паштоўку Вашу атрымалі. Паведаміце нас,—як ідзе справа па арганізацыі Чырвонага Крыжу ў нашым Сельсавеце.

*Грам. Барысаву.* (в. Зароўе, Шэйскага С/С., Крупскага раёну, Аршанскае акругі).

У зьвязку з Вашай просьбай мы напісалі.....

*Дуброўскаму Аляксандру* (Шепелёўскай с/с., Астрашыцка-Гарадокскага раёну).

*Селіванаву* (в. Мігдаловічы, Менскае акругі).

Ці атрымалі Вы ўсе належныя матар'ялы. Будзьце ласкавы паведаміць, як у вашай вёсцы ідзе арганізацыя Чырвонага Крыжу.

*Ярмаку Саве*, (в. Рэдковічы, Бабруйскае акругі).

Паштоўку вашу атрымалі—і ўсе патрэбныя матар'ялы вам выслалі. Чакаем ад вас паведамленьня ў „Бюлетень", як пайшла праца.

---

# СВАЯКІ
## ЗАГІНУУШЫХ У АМЭРЫЦЫ
### могуць атрымаць прэмію.

**Грошы можна сыскаць праз Цэнтральны Камітэт Беларускага Таварыства Чырвонага Крыжу.**

**За кожнага загінуўшага выплачваецца**

## ад 500 да 10 тысяч доляраў

Да імпэрыялістычнай вайны з Беларусі выехала шмат беларусоў у Амэрыку на заработкі.

Шмат хто з іх пасьля Кастрычнікавай рэволюцыі зьвярнууся назад на Беларусь, частка яшчэ і цяпер жыве ў Амэрыцы, а частка з іх або загінула на вайне, або памерла ці была забіта ў часе работы.

Некаторыя беларусы страхавалі сваё жыцьцё. І вось пасьля сьмерці застрахаваных, калі ў іх ня было сваякоў у Амэрыцы, страхавую прэмію маюць права атрымаць іх сваякі.

Усю справу па сысканьні страхавое прэміі з страхавых амэрыканскіх кампаній і перадачы сваяком узяў на сябе Цэнтральны Камітэт Беларускага Таварыства Чырвонага Крыжу.

Тыя грамадзяне, якія заявілі ў Чырвоны Крыж, што ў іх былі ў Амэрыцы сваякі і загінулі там, хутка атрымаюць страхавую прэмію: некаторыя па 500 доляраў, а некаторыя да 10 тысяч доляраў. Ужо для 11 грамадзян усе патрэбныя дакуманты аформлены і перасланы ў Нью-Ёрк; 22 запаўняюць анкеты, справа 11 грамадзян яшчэ высьвятляецца, а 6 грамадзян, якія жывуць у СССР, шукаюцца.

**Калі ў каго небудзь загінуў сваяк у Амэрыцы, дык трэба паведаміць у ЦК Беларускага Таварыства Чырвонага Крыжу (Менск, вул. Карла Маркса, д. № 3).**

# ПАДПІСВАЙЦЕСЯ

на самую дзешавейшую ў СССР папулярную сялянскую газэту

# „Беларуская Вёска“

Кожнаму падпішчыку „Беларускай Вёскі“ дармова высылаецца месячны літаратурна-мастацкі дадатак

## „ЧЫРВОНЫ СЕЙБІТ“

Кожнаму гадавому і поўгадавому падпішчыку „Беларускай Вёскі“ высылаецца ЗАДАРАМ вялікі настольны сялянскі

## КАЛЯНДАР

на 1928 год

**„Беларуская Вёска“** шырока асьвятляе **жыцьце вёскі.**

**Кожнаму падпішчыку „БЕЛАРУСКАЙ ВЁСКІ“ даецца ДАРМОВАЯ СПРАЎКА-ПАРАДА НА ЎСЯКАЕ ЗАПЫТАНЬНЕ**

**УМОВЫ ПАДПІСКІ:**

| | 1 м-ц | 3 м-цы | 6 м-цаў | 12 м-цаў |
|---|---|---|---|---|
| | р. к. | р. к. | р. к. | р. к. |
| 1-е выд. газ. „Бел. Вёска“ адна | 15 | 45 | 90 | 1-80 |
| 2 „ „ „ з журн. „Плуг“ | 30 | 90 | 1-80 | 3-60 |
| 3 „ „ „ з „Бел. Раб. і Сялянка“ | 25 | 75 | 1-50 | 3-00 |
| 4 „ „ „ з кн. па сел. гас. | 25 | 75 | 1-50 | 3-00 |
| 5 „ „ „ з ж. „Бел. Піонэр“ | 30 | 90 | 1-80 | 3-60 |
| 6 „ „ „ з ж. „Маладняк“ | 55 | 1-65 | 3-30 | 6-60 |
| 7 „ „ „ з ж. „Плуг“ і „Белар. Раб. і Сялянка | 40 | 1-20 | 2-40 | 4-80 |
| 8 „ „ „ з ж „Плуг“, „Раб. і Сялянка“, „Бел. Піон.“ і кн. па сел. гасп. | 65 | 1-95 | 3-90 | 7-80 |

**УВАГА:** час. „Плуг“ і „Бел. Піонэр“ у паасобку каштуюць у м-ц па 20 кап.. „Бел. Раб. і Сялянка“ і кн. па сел. гасп.—15 кап. Маладняк—45 кап. У розьнічнай прадажы газ. „Бел. Вёска“ каштуе 3 кап. кумар.

**Адрас рэдакцыі і канторы: МЕНСК, САВЕЦКАЯ 63.**

